PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (1978) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 10 КРАСАВІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*— Час у поле, хлопцы!*

## „НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭНТЫФІКАЦЫЯ НА ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІМ ПАМЕЖЖЫ”

Пад такім загалоўкам прадставіў свае апошнія даследаванні нацыянальнай свядомасці жыхароў Усходняй Беласточчыны праф. Андрэй Садоўскі на чарговым семінары „Памежжа. Сацыялагічныя даследаванні”, які адбыўся 14 сакавіка ў Беластоку.

Прафесар Садоўскі няспынна ўдасканальвае метады сваіх даследаванняў, у сувязі з чым атрымоўвае штораз цікавейшыя вынікі. Апошнія з іх павінны стаць не толькі дасягненнем сацыялагічнай навукі, але і прадметам грамадскага асэнсавання, перш за ўсё сярод беларусаў. Прафесар Садоўскі рашыўся менавіта знайсці адказ на пытанне, кім сапраўды лічаць сябе жыхары Усходняй Беласточчыны паводле нацыянальнасці.

Як сцвердзіў даследчык, у 80-ыя гады рынула трывалае пераканане, быццам бы на Беласточчыне жывуць палякі і беларусы, прычым палякамі з'яўляюцца каталікі, а беларусамі — праваслаўныя. Свядомасць існавання на Беласточчыне палякаў і беларусаў надалей паўсюдная, але з'явілася таксама свядомасць існавання тут украінцаў.

Грамадскай базай украінскага руху з'яўляюцца людзі, якія моцна пераканаfamя, што яны не палякі, але сярод якіх расце пераканане, што яны таксама і не беларусы. Людзі гэтыя ўсё-такі знаходзяцца на этапе пытанняў, а не адказаў (часта пыталіся саміх даследчыкаў пра сваю сапраўдную нацыянальнасць). Украінскія вартасці яшчэ наогул не ўспрымаюць як свае, бо ўкраінскасць прапаноўваецца ім у нацыянальнай форме, да чаго яны не даспелі. У такім сэнсе ўкраінскасць ім усё-такі больш чужая, чым беларускасць. Пераканаьных украінцаў характарызуе адмоўнае стаўленне да палякаў, беларусаў і рускіх, чым яны адрозніваюцца ад беларусаў, якія ў тым больш адкрытыя.

Паводле праф. Садоўскага, украінска-беларускае змаганне за душы „тутэйшых” вырашыць на сваю карысць той, хто прад'явіць гэтым людзям нацыянальную прапанову ў форме адпаведнай нашаму часу. Пакуль што ўкраінскі і беларускі рух карыстаюцца архаічнымі аргументамі, напрыклад, міграцыі тысячагадовай даўнасці, што сапраўды людзей мала цікавіць. Украінцы, хаця іх колькасць расце, у агульным маштабе Усходняй Беласточчыны з'яўляюцца ўсё-такі ледзь прыкметнай дабаўкай у польска-беларускай стыхіі. Менавіта разважанні пра дзве апошнія нацыянальнасці склалі асноўную частку даклада праф. Садоўскага.

Паводле яго, канчаецца стэрэатып паляк — католік і праваслаўны — беларус (рускі).

Каталіцызм перастаў быць атрыбутам польскасці. Толькі 11% апытаных палічылі яго нечым самым важным у быцці палякам. Прытым, як ні дзіўна, яшчэ не ўсе католікі лічаць сябе палякамі. Здараюцца таксама і беларусы, а некалькі працэнт апытаных католікаў мае свядомасць, што іхняя родная мова

☞ Працяг на стар. 4

## У „ТРОЙЦЫ” БУДЗЕШ СВОЙ СЯРОД СВАІХ

Бельская „тройка” нетыповая тым, што апрача агульнай праграмы польскіх школ, усе яе вучні вывучаюць абавязкова беларускую мову. Гэта „свая” школа. Бацькі, аддаючы ў яе сваіх дзяцей, ведаюць, што яны знойдуцца ў кроўным асяроддзі, дзе няма праблемы, калі святкаваць Каляды і Вялікдзень. Беларускае дзіця тут не „белая варона”, але свой сярод сваіх. Свойскасць „тройкі” выклікае выключную згуртаванасць працаўнікоў школы і бацькоў, якія аддана працуюць дзеля яе дабра, нягледзячы на вонкавыя абставіны, наогул неспрыяльныя.

Бо „тройку” чамусьці не далюбліваюць як гарадскія, так і ваяводскія ўлады, хаця, як кажа дырэктар школы Васіль Ляшчынскі, мусіць няма школы, якую б наведвала столькі афіцыйных дэлегацыяў, у тым ліку замежных.

Школа перапоўнена і добра было б яе пабольшыць. На жаль, дабаўленне аднаго паверха над суседнім беларускім ліцэем (такая магчымасць разглядалася) абышлося б на сённяшнія грошы ў 6,5 мільярда злотых, якіх няма адкуль узяць. Тым часам на другім баку вуліцы апусцеў будынак былога камітэта ПАРП. У распалажаным „на жабін скок” ад „тройкі” будынку маглі б памесціцца пачатковыя класы (I-III) гэтай школы, для якіх непатрэбныя спецыялістычныя кабінеты. Дзеткі маглі б хадзіць у галоўны будынак у сталовую (абед каштуе ў ёй 7 тыс. зл.).

Колькі не звярталіся кіраўніцтва і бацькоўскі камітэт „тройкі” за перадачу будынка былога камітэта, якой не шукалі падтрымкі, ніяк не змаглі свайго дабіцца. Сам я чуў адказ аднаго з чыноўнікаў, які на ўсе рацыянальныя аргументы адказваў: „Не, бо не”. Будынак быў вельмі патрэбны то музычнай, то нейкай прыватнай школе, ажно нанацец выявілася небыліца, якую прыдумалі ўлады. У былым камітэце створаная была школа н-р 5, у якой толькі тры пачатковыя класы. Гэта значыць, што пасля трэцяга класа вучні мусяць сабе шукаць іншую школу!

У Бельску пачынаецца якраз дэмаграфічны спад. У наступным школьным годзе будзе менш першакласнікаў, чым у гэтым. У такой сітуацыі некаторым прыйдзецца змагацца за кантынгент новых вучняў. Гэта тычыцца перш за ўсё школы н-р 5, якая вымушаная шукаць бацькоў, якія аддадуць у яе дзяцей, ведаючы, што гэта толькі на тры гады.

Бацькі будучых першакласнікаў у раёне „пяцёркі” атрымалі ўжо пісьмы з напамінам запісваць у яе дзяцей. Пісьмы гэтыя збянтэжылі многіх бацькоў, якія няўпэўнены, ці могуць аддаваць дзяцей у „тройку”. Папаўзлі чуткі, быццам бы „тройка” не прымае дзяцей, бо перапоўненая, а ў кожным выпадку патрабуюцца адмысловыя заявы.

Не паспеў я ўвайсці ў „тройку”, як у след за мною з'явіўся бацька ахвотны запісаць у школу сваю дачку, са згаданай заявай у руцэ. Склаў яе, як сам сказаў, якраз пад уплывам успомненых чутак.

Як паясняе дырэктар Ляшчынскі, ніякія пісьмовыя заявы тут непатрэбны. Хопіць проста запісаць дзіця (хаця б па тэлефоне). „Тройка” — гэта школа „неранізаваная” і прымае ўсіх дзяцей, якія хочуць вучыцца ў сваёй школе. Праўда, школа перапоўненая і заняткі адбываюцца на дзве змены, але пачатковыя класы ходзяць выключна на першую змену.

Карыстаючыся нагодай, успомнім козыры „тройкі”, якіх і без свойскасці нямала.

Апрача польскай і беларускай, вучні вывучаюць з 5 класа англійскую і рускую мовы. Ахвотныя змогуць таксама вывучаць нямецкую мову. Навучанне чужых моваў вядзецца ў „тройцы” на высокім узроўні, аб чым сведчыць факт, што двое вучняў прымуць удзел у ваяводскіх элімінацыях конкурсу англійскай мовы. Яны прайшлі ў іх як адзіныя бяльшчане. А трое вучняў будуць удзельнічаць у ваяводскіх адборачных спаборніцтвах конкурсу рускай мовы. Відавочна вывучэнне беларускай мовы нічым не перашкаджае ў аваладанні іншымі мовамі. Паводле Васіля Ляшчынскага, калі сучасны чалавек не ведае дзвюх чужых моў, дык немагчыма лічыць яго еўрапейцам.

„Тройка” вылучаецца таксама спартыўнымі дасягненнямі. Ад чатырох гадоў хлопцы займаюць I месца па лёгкай атлетыцы ў ваяводстве, а дзяўчаты трымаюцца шостага „пунктаванага” месца. Усё гэта нягледзячы на недахоп спартыўнай базы.

Тут закранем, хочаш не хочаш, чарговую балячку. Дасягненні „тройкі” ў спорце мала каго цікавяць (у вярхах, вядома). Спартыўную пляцоўку (сапраўдны міні-стадыён) зрабілі сваімі сіламі настаўнікі, бацькі і дзеці. Будуюць цяпер вялізную спартыўную залу памерамі ў 42 х 32 метраў.

Велічыня і прыгажосць гэтай залы, паводле В. Ляшчынскага, „многіх у Бельску ў вочы коле”. Відаць, адтуль бярэцца брак спагады для яе будаўнікоў.

Зала будуецца ўжо восьмы год і ніколі не хапае якраз на яе грошай. За гэты час да школы н-р 1 дабудаваны быў панель з дзесяццю класнымі заламі, кабінетамі дырэктара і яго намесніка, прыёмнай, раздзявальняй і туалетам. Падобна гэтаму, школа н-р 4 атрымала грошы на прыбудову з 18 новых класаў, кабінета дырэктара, прыёмнай, дантыстычнага кабінета, раздзявальні і туалета. Да таго справіла сабе фешэнебельны плот.

Калі яшчэ ўспомнім закалот з будынкам камітэта, робіцца за „тройку” крыўдна. Васіль Ляшчынскі сціпла заявае, што людзі „тройкі” робяць усё, каб не адставаць ад іншых, якім усё атрымоўваецца лягчэй. Абяцае таксама, што ў будучым годзе зала будзе скончана разам з памяшканнямі, у якіх знойдзецца, між іншым, лабараторыя для навучання англійскай мове.

Цвёрды гэта народ — падляшы...

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Pierwszy dzień wiosny upłynął tradycyjnie pod znakiem bełtów i piwa. Park Branickich zamienił się w jedną wielką pijalnię piwa i wina patykiem pisanego. Policjanci ganiali sprintem po parku za młodzieńcami, a potem hurtowo odwozili na Izbę Wytrzeźwień. Nad Białką jeden z wagarowiczów usiłował podpalić trawę wokół śpiącego kolegi by go obudzić.*

*(Gazeta Współczesna, nr 57)*

**Нам здаецца, што гэтае прывітанне вясны не было нічым іншым, як палітычнай правакацыяй. Пакуль што не ведаем толькі, хто яе арганізаваў і супраць каму. Але ёсць такія, што і гэтае ведаюць.**

* * *

*Historia ludzkości to tortury, palenie na stosie, chłosta, pojedynki, strącanie starców ze skał, zabijanie kalekich dzieci, wreszcie nieprzerwane pasmo wojen. Zło tkwi w każdym z nas. Listę psychologicznych przyczyn agresji otwiera frustracja. Najbardziej dotkliwa wtedy, gdy narusza obraz własnego ja lub zakłóca potrzebę akceptacji.*

*(Polityka, nr 12)*

**Пра гэты асноўны тэзіс псіхалогіі не павінны забываць асабліва ўсе тыя, што маюць намер пісаць або выказвацца пра нашыя „маральныя аўтарытэты”, якіх апошнім часам робіцца штораз больш і больш. Толькі штораз менш тае маральнасці.**

* * *

*Agencja Rynku Rolnego, nazwana przez dziennikarzy Agencją Szwindlu Rolnego, wyłudziła z budżetu państwa 7 bln. zł. Miała uspokajać ceny na rynku, a nawet zarabiać pieniądze do budżetu. Tymczasem kupowała żywność, gdy była droga, a sprzedawała, gdy była tania.*

*Kierownicy Agencji za jedno posiedzenie płacili sobie 11 mln. zł.*

*(Polityka, nr 12)*

**У тым і заключаецца ўвесь сэнс змагання за ўладу ў „дэмакратычнай краіне”. Bierz swoje i w nogi!**

* * *

*Do wojska trafiają ci, którzy nie mieli siły uciec od dorocznej branki. Po pierwszych tygodniach lub miesiącach 20% należy zwolnić ze względu na przypadłości zdrowotne. Coraz mniej jest młodych ludzi chętnych i zdolnych do służby wojskowej.*

*(Rzeczpospolita, nr 66)*

**Што гэта робіцца з маладымі людзьмі? Самыя калекі і дэгенераты?**

* * *

*Końcówka kariery Lecha Wałęsy obfitować będzie w wielkie ataki złości i pokazy bezradności. Warto przygotować się na męczącą ogół i efektowną agonię, —* заяўляе Урбан.

*(Nie, nr 12)*

* * *

*Po ostatniej podwyżce cen biletów PKP ubyło pasażerów na gapę w klasie I i II, a pojawili się na lokomotywach, bo w ten sposób dorabiają sobie kolejarze.*

*(Polityka, nr 9)*

**І вельмі слушна. Кожная ініцыятыва, якая вядзе да пашырэння маштабу паслугаў, вартая падтрымкі.**

* * *

*W Białymstoku głównym producentem kłopotów jest Lech Rutkowski. Też prezydent. Ostatnio kazał na przykład białoruskiemu konsulowi, który się jeszcze dobrze nie zainstalował, zbierać manele. Tak po prostu. Bo budynek użyczony konsulowi Lech R. chce komuś opchnąć. Ot, dyplomacja!*

*— W języku dyplomatycznym nie ma na to określenia, — oświadczył bezdomny konsul Chodasiewicz.*

*Swoją drogą, konsul urzędujący na ławce w parku byłby arcyciekawym ewenementem. Tyle, że do czasu, bo inne służby mogłyby go zabrać do Choroszczy.*

*(Kurier Podlaski, nr 45)*

**У Беластоку ўсё можа здарыцца, нават высяленне консула. Ніякое ж консульства ніколі не было патрэбнае ўладам вёскі, бо яны заўсёды жылі іншымі праблемамі. А Беласток гэта тыповая „крэсовая вёска” і нічога больш.**

* * *

*W miasteczkach wokół Berlina swoje siedziby zakładają międzynarodowe mafie zajmujące się stręczycielstwem oraz przemytem. Sprowadzają dziewczęta głównie z Rumunii, Słowacji, Polski. W liczącym 15 tysięcy mieszkańców Luckau działa aż 7 domów publicznych. Personel stanowią siedemnastoletnie i osiemnastoletnie dziewczęta z Czech, Słowacji i Polski. Nie przyjechały tu pod przymusem. Wiedziały, że podstawowym codziennym zajęciem będzie tu świadczenie płatnej miłości. Prostytutki zrekrutowane z terenów bezpośrednio przylegających do granicy niemieckiej informują rodzinę o prawdziwym celu wyjazdu do Niemiec. Rodzina w miarę inkasowania kolejnych przekazów walutowych akceptuje zajęcia córek. Czasami pieniądze nastoletniej prostytutki utrzymują kilkuosobowe rodziny.*

*(Kurier Poranny, nr 28)*

* * *

*Rosyjscy strażacy z Brianska przyjechali do pożaru tak pijani, że zapomnieli napełnić wodą cysterny w wozach strażackich. Nic nie ugasili i nie zauważyli nawet, że ich dowódca — jedyny trzeźwy w całym towarzystwie — spalił się żywcem w płonącej chałupie. Byli tak pijani, że po przybyciu na miejsce pożaru nie byli w stanie wyjść z wozów. Dopiero w drodze powrotnej do remizy zauważyli, że brakuje dowódcy.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 62)*

**Гэта яшчэ палова бяды. Недзе ў Ванхоцку пажарнікі, якія прыехалі гасіць пажар, замест вады мелі поўную бочку нафты.**

* * *

*Rząd koalicji PSL-SLD i w jej imieniu premier Pawlak stwierdzili dobitnie, że państwo nie wyrzeknie się swych obowiązków wobec kultury, —* сказаў міністр Казімеж Дэймэк.

*(Gazeta Współczesna, nr 44)*

**Міністр Дэймэк мае пачуццё гумару. Асабліва любіць жартаваць, калі гаворыць пра патрэбы культуры нацыянальных меншасцяў. Але нікому ўжо не хочацца смяяцца.**

## З мінулага тыдня

**Дэлегацыя Сейма** з маршалкам **Юзэфам Алексым** на чале па запрашэнню старшыні Дзяржаўнай Думы Расеі **Івана Рыбкіна** нанесла афіцыйны візіт у Маскву. Польскія парламентарыі сустрэліся з прэзідэнтам **Барысам Ельцыным**, прэм'ер-міністрам **Віктарам Чарнамырдзіным** і іншымі афіцыйнымі асобамі. У саставе дэлегацыі былі, між іншым, **Браніслаў Герэмак, Аляксандр Кваснеўскі і Аляксандр Малахоўскі.**

**Расея і Польшча** падпісалі пагадненне аб усебаковым супрацоўніцтве пагранічных службаў абодвух дзяржаў у галіне барацьбы з арганізаванай злачыннасцю. Шэф расейскіх пагранвойскаў **Андрэй Нікалаеў** заявіў у Калінінградзе, што пагадненне — першы крок у напрамку стварэння глабальнай сістэмы супрацьдзеяння арганізаванай злачыннасці ў Еўропе. Польскую дэлегацыю ўзначальваў **Ян Вайцешчак** — галоўны камендант Гранічнай стражы.

**Рада Міністраў** вырашыла, што Польшча падасць афіцыйную заяву аб прыняцці яе ў члены Еўрапейскай уніі. На думку міністра замежных спраў **Анджэя Аляхоўскага** гэтае рашэнне мае два аспекты: сімвалічны, які пацвярджае палітычную волю ўдзельнічаць у ЕУ, і практычны — Польшча заяўляе сваю гатоўнасць пачаць перагаворы на тэму варункаў членства ва Уніі.

**Пры ўдзеле віцэ-прем'ера Аляксандра Лучака** адбылося ў Варшаве пасяджэнне Супольнай камісіі **Польскай экуменічнай рады.** Тэмай сустрэчы былі пытанні адносін паміж дзяржавай і хрысціянскімі цэрквамі, асабліва справа прававога рэгулявання гэтай праблемы.

**Падчас кангрэсу Уніі працы** беластоцкі пасол і намеснік старшыні гэтай партыі **Артур Смулка** выступіў з прапановай абмежаваць канстытуцыйныя правы Прэзідэнта ў сувязі з яго ўмяшаннямі ў справы замежнай палітыкі і прызначэння міністраў. Па просьбе старшыні партыі **Рышарда Бугая** ён зняў сваю прапанову, але выказаў перакананне, што дэбата над балансам прэзідэнцтва **Леха Валэнсы** непазбежная.

**Беластоцкі пасол у Сейм,** старшыня Ваяводскай управы ПСЛ **Адам Чэслаў Дабронскі** рашэннем старшыні Рады Міністраў прызначаны на пасаду кіраўніка ведамства па справах ветэранаў і рэпрэсаваных.

**У Беластоку пабывала дэлегацыя журналістаў і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.** Госці наведалі Беластоцкае радыё і сустрэліся з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці ў рэдакцыі „Нівы” і ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве.

**Беластоцкую самаўрадавую кааліцыю — Лявіца** заснавалі трынаццаць партый і арганізацый з мэтай падрыхтоўкі праграмы і вылучэння кандыдатаў у дэпутаты падчас выбараў у мясцовае самакіраванне. У саставе гэтага выбарчага блока знаходзіцца **Беларускае грамадска-культурнае таварыства.**

**Фонд развіцця Беластоцкага ваяводства** — так называецца новаствораная арганізацыя, якая будзе распараджацца грашамі Брытанскай праграмы падтрымкі малых і сярэдніх фірмаў. Брытанцы намерваюцца прызначыць на дапамогу малому бізнесу ў Беластоцкім і Люблінскім ваяводствах у выглядзе нізкапрацэнтных крэдытаў 9,5 млн. долараў.

**Ваяводскі фонд аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі ў Беластоку** прызначыў 29 млрд. зл. перш за ўсё на будову ачышчальняў сцёкаў. Найбольшыя пазыкі атрымаюць будаўнікі ачышчальняў у Беластоку (5 млрд.), Чорнай-Беластоцкай і Белавежы (па 2 млрд.). Ачышчальня ў Карыціне атрымала 1 млрд. зл., у Міхалове — 1,5 млрд., а ў Моньках, Бранску і Кляшчэлях — па 0,5 млрд. зл.

**Цэнтр „Пагранічча мастацтваў, культур, нацый” у Сейнах** арганізаваў „Сустрэчы на пагранiччы”. Апрача выставак і сустрэч, якіх госцем быў епіскап **Ласла Тэкеш** з Тымішаары, адбыўся канцэрт калектываў з Ольштына, Вільні, Сейнаў, Любліна і Прагі.

**Гмінная рада ў Гарадку** здала прыватнаму італьянскаму прадпрымальніку пустуючы школьны будынак у Меляшках. Бізнесмен з Італіі плануе арганізаваць у ім прадукцыю абутку і прыняць на працу сто чалавек.

**У Кузніцы-Беластоцкай** паліцыя затрымала грамадзяніна Беларусі, які намерваўся перасячы дзяржаўную мяжу на ўкрадзенай раней у Сувалках машыне маркі „Лада”.

## Праз тыдзень у „Ніве”

- Бельская рада дзяліла грошы.
- Ці Касцюшка быў беларусам?
- Вёска Крыніца ў Лядскай пушчы.
- Добра быць беларусам у Беластоку!

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Клопаты „Свабоды”

Менскі апазіцыйны тыднёвік „Свабода” папаўся ў пераплёт. Суд можа канфіскаваць іхнія камп'ютэры, калі рэдакцыя ў назначаны тэрмін не заплаціць амаль паўтара мільёна рублёў штрафу за знявагу штатс-сакратара па справах нацыянальнай бяспекі Генадзя Данілава, якога „Свабода” абвінавацiла ў злоўжыванні службовым становішчам і ва ўдзеле ў карупцыйнай аферы. Данілаў падаў рэдакцыю ў суд і запатрабаваў 1,4 млн. „зайчыкаў” (каля 150 тыс. дол.) кампенсацыі. На рэдакцыйным рахунку было толькі 400 тысяч рублёў і прадстаўнікі суда і міліцыі апісалі рухомую маёмасць „Свабоды” дзеля забяспячэння спагнання рэшты штрафу. Раней „Свабоду” падаваў у суд цяперашні спікер парламента Мечыслаў Грыб і выйграў 1,5 млн. „зайчыкаў” кампенсацыі.

### Падрыхтоўка да выбараў

Каардынацыйны камітэт Аб'яднання дэмакратычных сіл „Вясна-94” вырашыў стварыць арганізацыйны камітэт па збору подпісаў для вылучэння Станіслава Шушкевіча ў прэзідэнты. На пасяджэнні ніводна з арганізацый, якія ўваходзяць у гэты палітычны блок, не выказаліся супраць кандыдатуры С. Шушкевіча. Па стане на канец сакавіка падтрымку гэтаму палітыку паабяцалі Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Канфедэрацыя працы Беларусі і Незалежны прафсаюз. Дзяржаўны рух за тэрытарыяльнае самакіраванне і Аб'яднанне прадпрымальнікаў Беларусі гатовы аказаць падтрымку С. Шушкевічу разам з іншымі дэмакратычнымі кандыдатамі. Сакратар управы БНФ Віктар Івашкевіч, які прысутнічаў на пасяджэнні ў якасці госця, выказаўся за цывілізаванае супрацоўніцтва ў рамках дэмакратычнага руху і карэктныя паводзіны падчас збору подпісаў і перадвыбарчай кампаніі.

### Віцябчане па Саюзе не тужаць

Толькі 2205 подпісаў у падтрымку ідэі аб аднаўленні СССР сабралі ў Віцебску прадстаўнікі абласнога каардынацыйнага камітэта Народнага руху Беларусі. Калі ўлічыць, што ў Віцебску пражывае звыш 370 тысяч чалавек, у „рэферэндуме”, праведзеным НРБ, прыняло ўдзел менш чым 1% гараджан.

### Ветэранскае вета

Памятны знак на магілах нямецкіх салдат арміі Вермахта, што загінулі пад Брэстам у гады мінулай вайны, устаноўлены не будзе. Так вырашылі ветэраны Брэста. Адна з асноўных прычын — устаноўка знака загінуўшым акупантам непрымальная напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі. Ветэраны адзначаюць, што ў гэтыя дні ў Нямеччыне здымаюцца з пастаментаў савецкія танкі, якія прайшлі па вогненных дарогах вайны. І галоўнае — гэтае пытанне могуць вырашыць у поўным ракурсе толькі ўсе народы былога Саюза.

### Візіт амерыканскага міністра

З аднадзённым візітам наведаў Беларусь міністр абароны ЗША Уільям Пэры. Адразу пасля прылёту паміж кіраўнікамі ваенных ведамстваў ЗША і РБ адбыліся перагаворы аб далейшым практычным развіцці ўзаемаадносін паміж узброенымі сіламі абедзвюх краін. Амерыканскі госць падкрэсліў, што Беларусь лідзіруе сярод краін СНД у выкананні ранейшых дамоўленасцей па скарачэнню звычайных і ядзерных узбраенняў. У ходзе перамоваў абодва міністры падпісалі дакумент, які будзе прыктычна рэгламентаваць ход канверсіі абароннай прамысловасці на тэрыторыі Беларусі.

### Польскія ўзнагароды

Групе ўдзельнікаў нямецка-польскай вайны 1939 года, якія жывуць на Гродзеншчыне, уручаны польскія ўзнагароды. Ветэрыны вераснёўскай кампаніі атрымалі таксама льготы, якімі карыстаюцца ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Па даручэнню польскага ўрада, у Ваўкавыску на цырымоніі ўзнагароды ўручыла Альжбета Смулкова — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі.

### Забароненая маніфестацыя

Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт адмовіў прадстаўнікам мясцовай рады БНФ у правядзенні маніфестацыі, прысвечанай 76 гадавіне стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Пры гэтым гарадскія ўлады спаслаліся як на палітычную немэтазгоднасць правядзення цяпер такога мерапрыемства, так і на адсутнасць гарантыі бяспекі з боку ініцыятараў шэсця.

### Дарагі транспарт

Рашэннем Менскага гарадскога выканаўчага камітэта з 1 красавіка ўдвая павысіўся кошт праезду ва ўсіх відах транспарту ў сталіцы Беларусі. Цяпер за адну паездку трэба будзе заплаціць 200 разліковых білетаў („зайчыкаў”).

### Ліцэй без памяшкання

Другі год фактычна без памяшкання працуе ў Брэсце беларускі гуманітарны ліцэй. Яго дырэктар, Вячаслаў Вашэйка, са дня ўступлення на гэтую пасаду абівае парогі кабінетаў гарадскіх уладаў з просьбай прызначыць для добрай справы адзін з будынкаў, якія вызваляюцца. Аднак, далей за абяцанні справа пакуль не ідзе.

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

**(4)**

## Раслiннасць

На тэрыторыі Міхалоўскай гміны знаходзіцца частка Кнышынска-Беластоцкай пушчы. Лясы займаюць 30% гміннага абшару. З дрэў пераважаючымі пародамі з'яўляюцца сасна і елка, на долю якіх прыпадае каля 70 прац. агульнага дрэвастою. Альховыя і альхова-ясеневы дрэвастоі цягнуцца перш-наперш уздоўж пушчанскіх рэчак, раўчукоў і ручайкоў.

Размяшчэнне парод залежыць, галоўным чынам, ад прыродных умоў, і ў першую чаргу, ад ураджайнасці глеб і іх вільготнасці. Найбольш паніжаныя падмоклыя ўчасткі займаюць альшатнікі з добра выражаным другім ярусам з каліны, крушыны, рабіны, чаромхі, а таксама высокім травастоем.

Найбольш сухія месцы на слабаўраджайных глебах занялі сасноваяловыя бары, даволі часта з прымессю ядлоўцаў і іншых кустарнікаў. Найураджайнейшыя глебы займаюць дубоваграбавыя лясы, з прымешкаю бярозы, ліпы, асіны, клёна, ляшчыны. Лясная падсцілка тут надта багатая. Апрача імхоў выступаюць папараці і разнастайныя травы. Травяная раслiннасць найбольш багата прадстаўлена на залiўных сенажацях у далінах рэк Нарва, Пчолка, Луплянка, Руднік, Супрасль і Плоска ды іх прытокаў.

Астаткі натуральнага лесу пратрымаліся на багнах. Тут яго аставілі. Не карчавалі з-за непрыгоднасці для землеробства. Варта адзначыць, што вялікія абшары засадзілі лесам пасля II сусветнай вайны, а перш за ўсё там, дзе акупант вёў драпежніцкую гаспадарку.

У тутэйшых пушчанскіх лясах жывуць, між іншым, алені, сарны, дзікі, рысі, лісы, барсукі і зайцы. Даволі багата тут птушак. Яны прадстаўлены тут звыш 200 відамі, сярод якіх сустракаюцца птушкі ўжо даволі рэдкія. З паўзуноў сустракаюцца змеі, вужы і яшчаркі.

Кнышынска-Беластоцкая пушча мае цікавую фізіграфію ды такі ж рэльеф тэрыторыі. Тут маляўнічыя краявіды. Лясы выконваюць ролю так званых „зялёных лёгкіх" найбольшай беластоцкай агламерацыі — Беластока ды іншых гарадоў.

## Сельская гаспадарка

Міхалоўская гміна мае сельскагаспадарчы характар. Выступаюць тут, аднак, слабападзолістыя глебы ды многа няўдобіцы. Яны сфармаваліся на пясках і жвірах. Дзе-нідзе сустракаюцца лепшыя глебы. Землі III і IV класаў займаюць найбольшыя плошчы ў наваколлі Новай Волі, Казімірова і Тапаляна ды V і VI класаў — каля вёсак Юшкаў Груд, Кухмы, Луплянка Старая, Луплянка Новая, Ялоўка, Кандраткі, Мастаўлянынакалёнія і Дубляны. У гэтых апошніх сёлах найбольш пакінутых гаспадарак.

У Міхалоўскай гміне сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 20 850 гектараў, а так званыя зялёныя ўгоддзі (сенажаці, пашы) — складаюць 45 працэнтаў усіх сельскагаспадарчых абшараў. Тых апошніх найбольш у далінах рэк Нарва, Плоска і Супрасль ды іх прытокаў.

Ва ўладанні прыватных гаспадароў знаходзіцца 7 200 гектараў ворнай зямлі, 6 260 гектараў лугоў і пашаў ды яшчэ 2 660 гектараў лесу. Усіх прыватных гаспадарак — 1 988.

У мінулым годзе сельскагаспадарчыя культуры перазімавалі — варта гэта прыгадаць — без вялікіх стратаў, а іх стан увесну ацанілі як сярэдні. Амаль цэлы веснавы перыяд быў халодны ды з замаразкамі. Такое надвор'е пратрымалася аджно да 21 красавіка. Пасля было цёпла да 12 чэрвеня, але ж не было дажджу і зямля хутка высахла. Усё гэта мела адмоўны ўплыў на ўсход і ўзрастанне яравых збожжавых культур ды цукровых буракоў. Не раслі, а толькі павольна сохлі травы на ўзгорках. Сухое і цёплае надвор'е было ўсё ж спрыяльным падчас цвіцення фруктовых дрэў і кустарнікаў. Яны і зарадзілі.

Летнія месяцы — чэрвень і ліпень — зноў жа былі халоднымі і дажджлівымі. Усе сельскагаспадарчыя культуры зноў зазеляненелі — адпіліся. Хутка ажылі плантацыі караняплодных раслін ды пуганулі ўгору травы на лугах. Толькі для яравых культур надышоў быў ужо час жніва.

У 1993 годзе ў Міхалоўскай гміне сярэдняя ўраджайнасць чатырох асноўных збожжавых культур склала 18 цэнтнераў з аднаго гектара (сярэдняя за мінулы год у ваяводстве — 21,5 ц/га), бульбы — 2 190 цэнтнераў з 1 га і яе ўраджайнасць дасягнула сярэдняй ваяводскай.

Збожжавыя культуры ў мінулым годзе займалі плошчу ў 4 460 га і сяляне сабралі 75 000 тон збожжа. Самым жытам абсеялі 1 460 га і атрымалі 21 840 тон зерня. Стварылася перавага жыта над іншымі сельскагаспадарчымі культурамі. Гэты факт тлумачыцца перш за ўсё яго малой патрабавальнасцю да глеб і агратэхнікі.

Пасеялі каля 770 га яравой пшаніцы (ураджай быў у 19 ц/га) і намалацілі яе 14 730 тон. Ячменем абсеялі невялікую плошчу, усяго 87 гектараў. Пасля абмалоту наважылі 1 620 тон зерня. Пад пасевы аўса адвялі 750 га і атрымаўся ўраджай у сярэднім 16 цэнтнераў з 1 га. Восенню намалацілі 12 000 тон зерня.

Даволі вялікі абшар займалі мешанкі аўса з ячменем. У мінулым годзе скасілі занятыя пад яе 1 325 гектараў і намалацілі 23 850 тон зерня. Пад грэчку і проса прызначылі ўсяго 48 га і фінальны рэзультат — 384 тоны зерня.

Бульбу садзілі на 830 гектарах (сярэдні ўраджай быў 210 ц/га) і накапалі 173 000 тон гэтага караняплода. Мінулагодняя сярэдняя ўраджайнасць сена — 35 цэнтнераў з 1 гектара (сярэдні паказчык у ваяводстве — 47 ц/га). Сяляне сабралі сена з 4 830 га зялёных угоддзяў. Было яго 172 500 тон, у тым ліку найбольш з першага ды другога пакосаў, а ўжо трэці з іх быў малаўраджайны. Апрача таго нарыхтавалі яны яшчэ на пашу 645 тон сіласаў з травы.

Пад канюшыну і люцэрну гаспадарыаднаасобнікі адводзяць 310 гектараў і збіраюць 55 620 тон сакавітага корму. Пад сырадэлю адвялі ўсяго дваццаць гектараў (сярэдняя ўраджайнасць — 150 ц/га).

* * *

Перадавыя гаспадары ў Міхалоўскай гміне — гэта, між іншым, Яўген Грыка з Азяблоў (ён гадуе перш за ўсё буйную рагатую жывёлу, у тым ліку дойныя каровы), Лешак Свяржэўскі і Тадэуш Свяржэўскі з Новай Волі ды Юзэф Казбярук з Юшкавага Груда (гадуюць найбольш гусей), Фёдар Міруць з Бандароў і Ян Варона з Кабылянкі (яны перадавікі ў гадоўлі кароў), Ян Тарасевіч і Аляксандр Грэсь з Пянькоў (у іх вялікая гадоўля дойных кароў), Генрых Гансоўскі з Казімірова ды Мікалай Серада і Аляксандр Філіпчук з Новай Волі (яны гадуюць шмат буйнай рагатай жывёлы ды свіней), а таксама Януш Кулеша з Лясанкі і Рышард Мураўскі з Казімірова (яны вырошчваюць шампіньёны).

* * *

Сельскагаспадарчы прадукцыйны кааператыў у Кандратках паволі распадаецца. Зараз з рабочага калектыву са 160 чалавек асталося каля пяцідзесяці рабочых. На як доўга, невядома. Калгас мае ў сваім уладанні 840 гектараў зямлі.

Спыніў сваю дзейнасць вялікі сельскагаспадарчы камбінат, які дагэтуль гаспадарыў на 4,5 тыс. гектарах зямельных угоддзяў.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# БАБА ТАМАШЫХА

— Калі хочаш добра даведацца пра мінулае, — сказалі мне ў Меляшках, — то ідзі да бабы Тамашыхі. Ёсць у нас такія старэчы, як яна, але розум у іх ужо не найлепшы і ні чарта не памятаюць. А яна табе ўсё раскажа. Калі стрымаеш, то будзе табе расказваць у дэталях пра ўсё не адны суткі!

Да бабы Любы Лавіцкай, удавы Тамашыхі, завяла мяне мая дваюрадная бабка, Вера Лявіцкая, малодшая сястра майго дзеда Івана Кастанчука. Баба Вера таксама ўжо немаладая (80 ёй гадоў) і неяк вядзе сваю скромную гаспадарку ў адзіночку, але здзіўляецца адразу за веснічкамі: ці ж ейная суседка хіба сама расчысціла дарожку ад плота да парога, адсунула даволі вялікія гурбы снегу? Ёй жа ўжо дзевяноста чатыры, і як у такім узросце даць сабе рады з лапатай? А так, гэта зрабіла ўласнаручна баба Тамашыха. Гэта ж справа простая — махаць лапатаю. Бабе Любе не страшная праца больш далікатная, не на старэчыя вочы — вось вазьміце: гафтаванне, вышыванне, тканне паяскоў...

Пакуль што — баба Люба стаіць у блакітным фартуху над плітою, смажыць сабе „здаровую ежу" — цыбульку. Зараз сядзе насупраць мяне і пачне апавядаць. Да яе часта цяпер прыязджаюць госці — а то з радыё, а то з розных газетаў, бо ніхто так як баба Тамашыха ў Меляшках не раскажа пра даўніну. Чыстаю беларускаю моваю, выразна, зайгмальна. Калі б яшчэ змагла пісаць так хутка, як гаворыць, паўсталі б скарбы літаратуры (калі кажу гэта бабе Любе, смяецца). Ейны брат Янук Дарашкевіч, пісаў калісьці ў „Нашу ніву". Любе было тры гады, як Янук кончыў семінарыю, здаваў экзамены на настаўніка. Калісь Юры Туронак прыязджаў у Меляшкі, шукаў здымка Янука, але не мела. У сястры ў Познані захаваўся адзін, сямейны. Пан Туронак хадзіў па слядах Янука, пра тое, што зведаў, напісаў у „Ніве"

— Купіла я тую „Ніву", з гэтым тэкстам і здымкам. Выразала здымак, наклеіла на кардон — хай будзе памятка, — усміхаецца баба Люба. — Быў у мяне калісьці Януковы здымак, у вайсковай форме. Але як немцы тут хадзілі, заглядалі, схавала я дарагія памяткі ў печку-ляжайку; думала, не будуць там шукаць, бо гляньце: рускі афіцэр. І забылася, запаліла ў печы, згарэў. А на гэтым здымку: Янук, жонка, дзве дачкі і зяць, што яго забілі на фінляндскім фронце.

Люба Лавіцкая дастае свае апошнія творы — рознакаляровыя паяскі.

— Усе ў нас ткаць умелі. Сама я навучылася. Была найменшая, то глядзела, як гэта сёстры рабілі. Трэба ўмеці. Вось замуж ідзеш — свёкру трэ падараваць самою пашытую кашулю і паясок. Ідзе мужык касіць — торбачку з ручнікоў пашытую даць яму трэбы на полудзень. У поле збаночак, анучкаю кужэльнаю накрыты, абвязаны паяском. Я маленькаю свіней пасвіла — яны палягаюць ці ходзяць, а я паясок тку... І вось я потым доўга не ткала, задумала зноў за гэта ўзяцца. А было мне тады дзевяноста ці дзевяноста першы пайшоў. Узялася — цяжкавата. А калісь я доктару Юрку Генюшу ручнік падаравала і выткала чырвона-чорны паясок; ягоны бацька ў Доўкшах у Літве працаваў, там і мой брат Янук. Шмат паяскоў параздавала, пару толькі засталося. Не бачу ўжо найлепш, а тут жа трэба перабіраць. Вось тут адзін зачаты; думаю яго аддаць у наш беларускі музей, каб было відна, як яго рабіць трэба. Хай ведаюць колішнюю работу. І каб памятка і аба мне была...



*Адны з найстарэйшых жыхарак Меляшкоў — Вера Лявіцкая і Люба Лавіцкая.*

Тут баба Люба цікавіцца:

— А „Ніва" то выходзіць, ці не? Чаму няма ў нас яе ў Гарадку?!

Расказала бабка Тамашыха і пра свае дзяцінства, і юнацтва ў бежанстве — кідаў лёс нашых людзей па ўсіх дарогах і справах свету! — і пра пакутнае жыццё пасля вяртання на бацькоўскае, калі трэба было змагацца з голадам, няўродам, тыфам і агнём. Застаўся ў яе ручнік вынесены са страшнага пажару, які 80 год таму знішчыў набытае цяжкаю працаю дабро. Не адну слязу і кроплю поту ён выцер, візеў над абразамі, што сцераглі і благаславілі дом...

Калі будзеце ў Меляшках у Гарадоцкай гміне (з Беластока можна дабрацца прамым аўтобусам), абавязкова наведайце бабу Любу Лавіцкую. Яе дом з нумарам 19. І лягчэй вам стане на душы, і мацней на сэрцы.

**МІРА ЛУКША**
**Фота аўтара**




## На артыкул „БОСНІЯ, ЯКОЙ УЖО НЯМА

**сп. Д. ШАТЫЛОВІЧА з „Нівы" ад 17.10.1993 г.**

На жаль, газеты з Беластока ў Гродна трапляюць яшчэ радзей, чым пры камуністах — таму пішу з такім спазненнем.

Было вельмі цікава прачытаць успаміны сп. Шатыловіча пра побыт у няшчаснай Босніі, калі там яшчэ не было вайны — шмат цікавых, каларытных дэталяў, грунтоўных назіранняў. Неяк так сталася, што аднойчы я зацікавіўся міжнацыянальнымі адносінамі, дакладней, псіхалогіяй гэтых адносінаў. Ї вось, калі на пачатку 90-х, — я працаваў тады журналістам у Гродне, — на Балканах „заварушылася", я пару месяцаў чытаў усё, што мог знайсці пра Югаславію, а потым напісаў зводны артыкул і прапанаваў рэдакцыі. Намеснік галоўнага прачытаў і аж закіпеў (сам ён рускі): я пісаў, што вайна амаль непазбежная — таму што да гэтага падводзіць уся логіка гісторыі!

Пра гэта пішу і ў „Ніву". Няхай сп. Шатыловіч прабачыць, але не магу з ім пагадзіцца, што цяперашняя вайна ёсць вынікам **толькі** нямецкіх інтрыгаў ды кар'ерыстычных памкненняў камуністычнай наменклатуры. На жаль, усё яшчэ горш...

**Па-першае,** мусульмане на Балканах з'явіліся не толькі ў выніку панавання туркаў. **У мусульманства пераходзілі не праваслаўныя і каталікі, але ў падаўляючай большасці вернікі гэтак званай „баснійскай царквы", якая фармальна хоць была хрысціянскай, але мела шмат агульнага... з мусульманствам!** Пачатак яе быў у персідскай секце маніхеяў, якія ўзнавалі не адзінага Бога, але двух — Бога Дабра і Бога Зла. Пазней гэты дуалізм перайшоў у хрысціянства праз армянскіх паўлікіянаў, даволі шырока распаўсюдзіўся ў Візантыі сярод бедных класаў, потым быў асуджаны Саборам, а яго прыхільнікі шукалі прытулку на ўскраінах. Так узнікла „баснійская царква", у якой не было святарства, патрабавалася строгае захоўванне царкоўных правілаў, лічылася найвялікшым грахом багацце і г.д. Як бачым, вельмі шмат агульнага з ісламам, і калі Боснію заваявалі туркі-мусульмане, то іслам прынялі менавіта вернікі-„баснійцы", прычым амаль без насілля. А вось праваслаўныя і каталікі змагаліся адчайна — і князі, і шляхта, і купцы, і гаспадары...

**Па-другое**, Боснія і Герцагавіна заўжды былі краем вельмі і вельмі бедным: у сярэдзіне XIX ст. нават у суседняй Сербіі, таксама аграрнай, выпрацоўка на аднаго чалавека была вышэйшай у 4 разы — а ў Харватыі ці Славеніі, якія былі ў складзе Аўстра-Венгры, адпаведна ў 7 і 12 разоў! Калі ж Боснію занялі аўстрыйскія войскі, а гаспадарча яна была прывязаная да больш развітай Аўстрыйскай Імперыі, то ўзровень жыцця не падняўся, але наадварот — яшчэ больш панізіўся! Каб доўга не гаварыць пра прычыны (чаму так?), дастаткова пагглядзець на наш сучасны вопыт: проста не вытрымваем канкурэнцыі... Не знікла гэтае адрозненне ні пры каралеўскай Югаславіі, ні пры Ціта. Маршал Ціта, дарэчы, быў чалавек вельмі разумны: у яго Югаславіі таму і была такая шырокая аўтаномія, што **не адной мовай адрозніваюцца народы і не адным алфавітам, нават не адной верай. Народы перад усім адрозніваюцца псіхалогіяй, культурай (не мастацтвам — але культурай: спосабам жыць і ўспрымаць свет!) ды гістарычнай памяццю.** Тут, каб доўга не тлумачыцца, дастаткова прыгадаць англічанаў ды ірландцаў. Ї таму Ціта (даваенная Югаславія была краем унітарным і жыла фактычна пад фашысцкай дыктатурай у „велікасербскай" афарбоўцы) правёў межы паміж рэспублікамі з улікам не толькі моўных ці рэлігійных, але і гаспадарчых фактараў.

Як бачым, вузел завязваўся не адно стагоддзе: пры гэтым розныя рэлігіі, спосаб пісьменства, традыцыі побыту і г.д. спалучаліся з розным эканамічным узроўнем гэтых народаў (каб не спрачацца, што няма такога народа „мусульмане", хай будзе „этнагрупа", „рэлігійная група", бо што гэта змяняе па сутнасці?! — **аўт.**), рознымі лёсамі канкрэтных людзей, якія сілай абставінаў жывуць разам, але самім лёсам адным наканавана жыць „лепш", а другім „горш".

Вось у чым справа!

Тут „просты чалавек" павінен мець **куды больш** запас цярпення і талерантнасці, чым гэтага хапала яму ў часе спакою — а каб не было вайны, то **падаўляючая большасць** тваіго народа і суседняга народа мусіць мець гэты запас! А ці **так было** ў былой Югаславіі?! Безумоўна, самае простае абвінаваціць чорта, д'ябла, Германію, арабаў, ЦРУ, Ватыкан і г.д. Але калі так шчыра паміж намі: ці мы самі верым, што заўжды вінаватае начальства, але ніколі не вінаватыя простыя людзі?! Баюся, што калі мы ў гэтым упэўненыя шчыра, то некалі дагуляемся самі...

Тое, сп. Шатыловіч, што Ізатбегавіч, Мілошавіч, Туджман панамі быць захацелі і таму кроў пусцілі — гэтага і тлумачыць не трэба. Тое, што яны з „наменклатуры", дык я яшчэ горшы прыклад пакажу: цяпер прэм'ер-міністр Азербайджана нейкі Сурэт Гусейнаў — да вайны ён нават у „наменклатуры" не быў, а фабрычкай у глухой глушы камандаваў, якая авечую воўну ад бруду часала! То Мілошавіч і Туджман яшчэ могуць згандлявацца, а гэты вось будзе ваяваць да апошняга чалавека: **ён жа больш нічога не ўмее, ён жа будзе ніхто, як толькі скончыцца вайна!**

Безумоўна, можна спаслацца і на тое, што людзі „не маюць віны", бо яны простыя, не разбіраюцца ў палітыцы і г.д. Прыблізна так, як цяпер нашыя савецкія жабракі-камуністы плачуцца „мы верили — а нас обманули!"... Але давайце не забываць, што **практычна ўся інтэлігенцыя** Сербіі, Харватыі, Босніі, Арменіі, Азербайджана яшчэ калі вайны не было ўжо стаяла на баку **сваіх** шавіністаў тады і ваенных злачынцаў цяпер — і па сённяшні дзень іх бароніць!

Тое, што Нобелеўскі лаўрэат Салжаніцын накладам 10 млн. асобнікаў напісаў, што няма ніякіх украінцаў з беларусамі, у нас хутка вытлумачылі: ён, бачыце, манархіст! А няхай цяпер вытлумачаць, як то другі лаўрэат, дэмакрат і бліскучы паэт Іосіф Бродскі цяпер кругом, дзе можа, чытае свой новы „праграмны верш" пра тое, што ўкраінцы ёсць няўдзячныя здраднікі перад Расіяй, што яны забылі Палтаву, што гэта ім адальецца (цікава, чым, крывёй?!) і што „Россия" зноў будзе на Карпатах. Добра, што хоць не на Эльбе...

Пошукі прычынаў сваіх бедаў вельмі простыя — сусед вінаваты! Мы таксама любім пашумець: „русіфікавалі", „паланізавалі"... Ї усё ж праўда! Бо і русіфікавалі, і паланізавалі — і рускія, і палякі мелі ж **свае** інтарэсы! **Але ці мы памяталі пра свае інтарэсы?!** Мы чаму так ахвотна русіфікаваліся ды паланізаваліся?!

Той шалёны нацыяналізм у Босніі, — не нацыяналізм нават, а псіхічная хвароба хутчэй, — я ўяўляю, як быццам уласную ляноту і дурасць выпускаюць крывёй. А чыёй — ужо неістотна.

Прабачце, што ад Вашага артыкула я неяк перайшоў да сваіх разважанняў, але мне гэта здаецца вельмі і вельмі важным. **Нават самым важным.** Нацыяналізм, на мой розум, гэта як барон Мюнхаўзен **сам сябе** выцягваў з балота за валасы. Усякі іншы спосаб вырашэння сваіх нацыянальных праблемаў — гэта вайна.

Вось што хацелася сказаць. Сам жа артыкул пра Боснію вельмі цікавы і добра напісаны. Звяртаючыся ўжо да спадара рэдактара, хацеў бы папрасіць, каб „Ніва" часцей друкавала звесткі „са свету" — тут сядзім, як у мяшку, і гэта, як на мой розум, надоўга.

**АЛЕСЬ ЧОБАТ,**
**Гродна,**
**1994, сакавік.**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭНТЫФІКАЦЫЯ НА ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІМ ПАМЕЖЖЫ


*Працяг са стар. 1*

няпольская, хаця называюць яе „простай", а не беларускай.

Самымі цікавымі аказаліся вынікі, атрыманыя праф. Садоўскім адносна нацыянальнай ідэнтыфікацыі праваслаўных. На пытанне: „Да якой нацыі належыце ў сваім глыбокім перакананні?", больш за палову, бо 55% апытаных праваслаўных адказалі, што яны палякі. Беларусамі палічылі сябе 26% праваслаўных, украінцамі — 3%. Астатнія з апытаных большасцю не здолелі адназначна назваць сваю нацыянальнасць. Такім чынам, можна сказаць, што каталікі — гэта палякі, сярод якіх трапляюцца беларусы, а праваслаўныя — гэта палякі і беларусы, сярод якіх пападаюцца ўкраінцы.

У сувязі з тым, праваслаўе ўспрымаецца толькі як веравызнанне, без нацыянальных асацыяцыяў. Так яго бачыць ажно 70% апытаных. Толькі пятая іх частка (у большасці каталікі) лічаць праваслаўных „рускімі" або „кацапамі".

Польскай нацыянальнай ідэнтыфікацыі праваслаўных не перашкаджае не толькі адмоўнае стаўленне да іх часткі каталікаў, але і факт, што яшчэ крыху больш за іх палову сваёй роднаю мовай лічаць беларускую і яе гаворкі. У сувязі з тым праф. Садоўскі лічыць, што будаванне інтэграцыйных працэсаў на аснове рэлігійнай прыналежнасці гэта дзеянне, якое толькі ўзбуджае канфлікты ў рэгіёне. Перакладаючы высокі навуковы стыль на простую мову, гэта значыць, што атаясамліванне польскасці з касцёлам, а беларускасці з царквою, праводжанае часткай рэлігійных і палітычных правадыроў, не мае грамадскай падтрымкі.

Хачу спыніцца на апошнім сцвярджэнні, паколькі яно выключна важнае для беларускага руху. Безумоўна, каталіцкія іерархі і клерыкальныя дзеячы робяць вялікую памылку, адмаўляючы польскасці перакананым да яе праваслаўным, але гэта іхняя справа. Нашая справа, гэта 26% праваслаўных, якія з'яўляюцца свядомымі беларусамі. Паводле прафесара Садоўскага, іхняя ідэнтыфікацыя з беларускасцю ўжо не абапіраецца на праваслаўе, якое з'яўляецца толькі адным з яе элементаў, ды не самым важным. Выражаюць тут традыцыя, мова і пачуццё сувязі з Беларуссю.

Падобна, што працэс тоеснай дэзінтэграцыі праваслаўнага вясковага насельніцтва Беласточчыны, апісаны У. Паўлючуком, заканчваецца і на нашых вачах завяршаецца інтэграцыя гэтага насельніцтва з польскаю, беларускаю і ўкраінскаю нацыямі. Гэтая вялікая навізна, паколькі здавалася, што працэс гэты завершыцца толькі ў наступным пакаленні.

Даследаванні праф. Садоўскага знаходзяцца пакуль што ва ўступнай фазе г. зв. пілатажу. Трыста запоўненых анкетаў гэта замала, каб рабіць вырашальныя высновы. Не апрацаваны яшчэ матэрыял сабраны ў Беластоку, які, магчыма, змяніў бы атрыманыя вынікі. Тым не менш вынікі даследаванняў праф. Садоўскага можна суаднесці з вынікамі апошніх выбараў, у якіх за Выбарчы камітэт Беларускага саюза галасавала каля 20% праваслаўных выбаршчыкаў. Інтэрпрэтацыя вынікаў апошніх выбараў „паводле Садоўскага", дазваляе ўдакладніць мой аналіз папярэдніх выбараў. Калі ўлічыць, што толькі чвэрць праваслаўных гэта беларусы, аказваецца, што 10 тысяч галасоў за Выбарчы камітэт Беларускага саюза гэта вынік не такі далёкі ад аптымальнага. Галасавала каля 50 тысяч праваслаўных, з чаго на свядомых беларусаў выпадае тэарэтычна 12—13 тысяч. Калі так, заваяванне пасольскага мандата выключна сваімі сіламі можа аказацца для беларускага руху проста немагчымым, а ўжо напэўна з'ўляецца максімумам яго магчымасцяў.

На маю думку, па-новаму можна таксама глянуць на вынікі Саюза левых дэмакратаў (СЛД), дасягнутыя ў праваслаўным асяроддзі. Наогул успрымаецца іх як доказ скамунізавання беларускіх выбаршчыкаў. Усё-такі, ці не больш праўдзівым будзе сцвярджэнне, што праваслаўныя галасуюць за СЛД, паколькі гэта адзіная польская партыя, якая поўнасцю апраўдае іхнюю польскасць? Дзякуючы ПАРП, папярэдніцы СЛД, праваслаўныя „беларусы" „набылі права быць часткаю польскай сацыялістычнай нацыі", значыць проста „некаталіцкай". У сувязі з тым можна падазраваць, што большасць выбаршчыкаў Выбарчага камітэта праваслаўных перакінулася ў лагер посткамуністаў не па сацыяльных, але па нацыянальных прычынах. Проста не хацелі галасаваць за беларусаў, нават тых, якіх падтрымоўвала Праваслаўная царква.

Матрыманіяльныя заявы тыпу: „Poznam chłopaka prawosławnego — wykluczeni Białorusini" не бяруцца з ніадкуль. Успрымаць іх трэба не як дзікую вылазку, але праяву грамадскай свядомасці. Відаць, прыходзіць час развітацца з ілюзіяй 200-тысячнай (а то і больш) беларускай фальклорна-рэлігійнай масы, якая толькі чакае прасвятлення ў беларускім нацыянальным духу. Зарана яшчэ рабіць вырашальныя высновы, але гэтая маса відавочна набывае нацыянальныя контуры, ды, на жаль, не беларускія.

Як ні было б, на Беласточчыне жыве некалькі дзесяткаў тысяч свядомых беларусаў (на маю думку — каля сарака), што стварае дастатковую базу для існавання тут беларускага руху. Як заўважыў праф. Садоўскі, стан нацыі залежыць ад яе інтэлектуальнага стану, а нацыянальную свядомасць набываецца перш за ўсё праз школу.

На маю думку, у інтэграцыі беларускага грамадства ў Польшчы трэба засяродзіцца якраз на справе асветы і культуры і распрацаваць мадэль беларушчыны, якая адпавядала б патрэбам сучаснага беларуса.

Цяжка будзе прачнуцца са сну аб 200-тысячнай беларускай меншасці на Беласточчыне, але чым даўжэй будзем яго сніць, тым большая ўпэўненасць, што прачнемся, як вобразна кажуць палякі, „z ręką w nocniku".

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## IX. Прамысловасць

Прамысловасці належыць вядучая роля ў сферы матэрыяльнай вытворчасці Беларусі. Яе структура сфармавалася пад уздзеяннем эканоміка-геаграфічнага становішча, наяўнасці некаторых відаў карысных выкапняў, вялікіх рэсурсаў сельскагаспадарчай сыравіны, забяспечанасці працоўнымі рэсурсамі, недахопу паліўна-энергетычных рэсурсаў. Пераважаюць галіны апрацоўчай прымысловасці, перш за ўсё іх завяршальныя стадыі.

Адной з асаблівасцей структуры прамысловай вытворчасці Рэспублікі Беларусь з'яўляецца высокая ўдзельная вага машынабудавання і хімічнай індустрыі. На долю названых галін прыходзіцца палова выпускаемай прамысловай прадукцыі. Шырока развіта вытворчасць народнага спажывання.

Найбольшае развіццё атрымалі ў Беларусі працаёмкія галіны прамысловасці, якія патрабуюць вялікіх затрат кваліфікаванай працы. Важнейшыя прамысловыя цэнтры — Менск, Магілёў, Віцебск, Гомель, Орша. Буйныя прадпрыемствы ёсць таксама ў Бабруйску, Гродне, Брэсце, Пінску, Мазыры. Вакол новых вялікіх прадпрыемстваў выраслі такія гарады, як Салігорск, Светлагорск, Наваполацк, Жодзіна.

Паліўна-энергетычны комплекс мае пераважна ўнутрырэспубліканскае значэнне. Ён уключае здабычу і перапрацоўку нафты, нафтавога газу, здабычу паліўнага торфу, вытворчасць торфабрыкетаў, электраэнергетыку.

Энергетыка Беларусі складаецца з электрастанцый аднаго тыпу — цеплавых. На поўначы Рэспублікі ў Віцебскай вобласці дае ток новая, самая буйная Лукомльская электрастанцыя. Яе магутнасць 2,4 млн. кВт. Сумарная магутнасць усіх беларускіх электрастанцый складае 6,5 млн. кВт. Частку электраэнергіі энергасістэма РБ атрымлівае ад атамных электрастанцый, размешчаных на тэрыторыі суседніх рэспублік.

Ключавую ролю ў прамысловасці Беларусі адыгрывае машынабудаўнічы комплекс, а ў ім перш за ўсё будаванне аўтамабілей. Першыя беларускія аўтамабілі — МАЗы — былі выпушчаны Менскім аўтазаводам у 1947 г. З таго часу завод выпусціў дзесяткі тысяч бартавых грузавікоў, аўтасамазвалаў, лесавозаў. Цяпер яго асноўная прадукцыя — магістральныя аўтапаязды вялікай грузаёмкасці для далёкіх міжгародніх перавозак.

Самую вялікую грузаёмкасць сярод выпускаемых у краіне аўтамабіляў — да 180 тон — маюць БелАЗы. Гэта прадукцыя Беларускага аўтамабільнага завода ў горадзе Жодзіна. Яшчэ адзін магутны аўтамабільны завод знаходзіцца ў Магілёве.

Шырока вядома прадукцыя Менскага трактарнага завода — універсальныя трактары „Беларусь". Буйнейшы завод сельскагаспадарчых машын знаходзіцца ў Гомелі.

У Рэспубліцы некалькі станкабудаўнічых заводаў. Заводы Менска, Віцебска, Маладзечна, Оршы, Пінска і іншых гарадоў выпускаюць аўтаматычныя лініі, металарэзныя станкі, кавальска-прэсавыя машыны, робататэхніку.

Пры забяспечанасці высокакваліфікаванымі кадрамі і арыентацыі на прывазны метал вялікае развіццё атрымалі прыладабудаванне, радыётэхнічная і электронная прамысловасці. Яны, між іншым, даюць тэлевізары, радыёпрыёмнікі, халадзільнікі, аптычныя і вымяральныя прылады, іншую складаную апаратуру.

Важную ролю ў сучаснай гаспадарцы выконвае хімічная прамысловасць. Стварэнне ў рэспубліцы „вялікай" хіміі адносіцца да 1960—1970 г.г. У гэтыя гады былі пабудаваны буйнейшыя прадпрыемствы па выпуску мінеральных угнаенняў, сінтэтычных валокнаў, пластмас і шын. Сёння больш за 3/4 прадукцыі хімічнага комплексу вывозіцца за межы рэспублікі.

У Салігорску выпускаецца палова калійных угнаенняў былога СССР. Азотныя ўгнаенні выпрабляюцца ў Гродне, а фосфарныя — у Гомелі. Беларусь славіцца вытворчасцю хімічных валокнаў і ніцей (лаўсану, нітрону, капрону, віскознай ніці і інш.). Да нядаўна на долю рэспублікі прыходзілася амаль 1/4 іх агульнасаюзнага выпуску. Вытворчы аб'яднанні хімічнага валакна дзейнічаюць у Магілёве, Гродне і Светлагорску. У Наваполацку выпускаецца нітрон, а таксама поліэтылен — адзін з відаў пластмас. Важным цэнтрам хімічнай прамысловасці з'яўляецца Бабруйск з шынным камбінатам. Шыны і пакрышкі гэтага камбіната неабходны для грузавых аўтамабіляў, трактароў, камбайнаў і матацыклаў.

Высокая тэрытарыяльная канцэнтрацыя хімічных вытворчасцей на Беларусі абумовіла абвастрэнне экалагічнай праблемы. Асабліва напружанай з'яўляецца экалагічная сітуацыя ў Наваполацку, Магілёве, Бабруйску і Светлагорску.

Да галін спецыялізацыі ў рамках Саюза Незалежных Дзяржаў адносіцца таксама лёгкая прамысловасць. Выпускаюцца ваўняныя, ільняныя, шаўковыя і баваўняныя тканіны, швейныя, трыкатажныя, панчошна-шкарпэткавыя і галантарэйныя вырабы, абутак. Буйнымі тэкстыльнымі прадпрыемствамі славіцца Менск, Орша, Магілёў, трыкатажнымі — Пінск і Віцебск, дывановымі — Віцебск і Брэст. У Жлобіне працуе буйнейшая ў СНД фабрыка штучнага футра. Прадпрыемствы лёгкай прамысловасці ёсць у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу.

У Беларусі маюцца прадпрыемствы лясной дрэваапрацоўкі і цэлюлозна-папяровай прамысловасці. Самыя буйныя прадпрыемствы, якія даюць цэлюлозу і паперу, знаходзяцца ў Светлагорску, Добрушы і Слоніме.

Сярод міжгалінавых комплексаў Беларусі важная роля належыць будаўніча-прамысловаму. Сярод прадпрыемстваў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў — цэментныя і цагельныя заводы, домабудаўнічыя камбінаты, заводы жалезабетонных і металічных канструкцый, керамічных будаўнічых вырабаў.

Вельмі разнастайная харчовая прамысловасць. Яна працуе на мясцовай сельскагаспадарчай сыравіне і выпускае прадукты харчавання. Па колькасці прадпрыемстваў яна займае ў Беларусі першае месца сярод іншых галін прамысловасці. Але харчовыя прадпрыемствы не вельмі вялікія па размерах.

У міжрэспубліканскім тавараабмене вываз прадукцыі з Беларусі (па кошту) перавышае ўвоз. Па аб'ёму, наадварот, больш грузаў прыбывае, чым вывозіцца. У адпаведнасці са спецыялізацыяй у геаграфічным падзеле працы, з Беларусі ў іншыя рэспублікі СНД адпраўляецца пераважна прадукцыя апрацоўчых галін прамысловасці. Вывозяцца трактары, велікагрузныя аўтамабілі, металарэзныя станкі, электронна-вылічальныя машыны, прылады, гадзіннікі, матацыклы, хімічныя валокны, калійныя ўгнаенні, нафтапрадукты, фанера, ільняныя і ваўняныя тканіны, трыкатажныя і швейныя вырабы, мясныя і малочныя прадукты, бульба, плодагародніннын кансервы.

У Беларусь пастаўляецца метал з Украіны і Урала, нафту з Заходняй Сібіры і Паволжа, прыродны газ з Цюменскай вобласці і Аўтаномнай Рэспублікі Комі, вугаль з Данецкага басейна, апатыты з Кольскага паўвострава, драўніну з Карэліі, бавоўну з Узбекістана, пшаніцу з Казахстана і Украіны, вінаград, садавіну і агародніну з Малдовы, рэспублік Закаўказзя і Сярэдняй Азіі, рыбныя прадукты з Паўночнага і Далёкаўсходняга раёнаў, рэспублік Прыбалтыкі.

**Ю. БАЕНА**

# ДАДАТКОВЫЯ БАЛЫ

**Педагагічная рада Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы заявіла Куратары асветы ў Беластоку аб неабходнасці ўвядзення дадатковых балаў па беларускай мове на ўступных экзаменах у ліцэй.**

Адказ Куратарыі быў наступны:

Kuratorium Oświaty w Białymstoku informuje, że przyjęte zasady rekrutacji do klasy pierwszej w II LO w Hajnówce, w części dotyczącej punktów pochodzących z przeliczenia ocen ze świadectw szkoły podstawowej, są niezgodne z Art. 7 ust. 1 pkt 2 Ustawy o systemie oświaty z dnia 7 września 1991 r. (Dz. U. Nr 95/91 poz. 425, zm. Dz. U. Nr 26/92 poz.113).

II Liceum Ogólnokształcące jest szkołą publiczną, która zobowiązana jest przeprowadzać rekrutację w oparciu o zasady powszechnej dostępności.

Ustalenie przez komisję rekrutacyjno-kwalifikacyjną języka białoruskiego, z którego przeliczana będzie ocena, w sposób rażący utrudni dostęp do szkoły młodzieży, która w szkole podstawowej nie uczyła się tego języka.

W związku z powyższym Kuratorium Oświaty zobowiązuje Pana Dyrektora do dokonania zmian w ustalonych zasadach rekrutacji i w trybie pilnym poinformowanie nas o tych zmianach.

**KURATOR OŚWIATY**
**Piotr Litermus**

**Паводле дырэктара ліцэя, Яўгена Сачко, увядзенне дадатковых балаў на практыцы мела б малаістотнае значэнне. Як прыклад прадставіў ён такую сітуацыю: калі б на 120 месц было 125 кандыдатаў, якія паспяхова перайшлі б уступныя экзамены па матэматыцы і польскай мове, у першую чаргу былі б з гэтых 5 вучняў адкінутыя тыя, якія маюць нізкую колькасць балаў і не вучыліся беларускай мове ў пачатковай школе. Педагагічная рада беларускага ліцэя кіравалася тым, што ў спартыўных ліцэі балы па фізкультуры ўспрымаюцца як патрэбныя з увагі на спецыялізацыю школы.**

**Настаўнікі, пасля адмоўнага стаўлення Куратарыі, маюць сумненні наконт сэнсу змагання за далейшае прапагандаванне беларускай мовы. Таксама бацькі і вучні пачатковых школ страцілі надзею на шанц „практычнага выкарыстання" сваёй роднай мовы ў далейшай адукацыі, нават у т.зв. беларускіх ліцэях.**

**Варта зазначыць, што навучанне беларускай мовы ў ліцэі пачынаецца з вывучэння алфавіту. Такая самая практыка паўтараецца і на беларускай філалогіі. Амбітныя вучні нярэдка перажываюць з гэтай прычыны глыбокае расчараванне. І здзіўляюцца ўсе, што ў нас пануе такая беларуская непісьменнасць.**

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# ШТО Ў НАС ЛЯЖЫЦЬ НА СЭРЦЫ?

Ганна Кандрацюк у сваіх цікавых рэпартажах пра нашыя беларускія вёскі на Беласточчыне закранае істотныя справы з жыцця сялян: сённяшні быт і перспектывы на будучыню. Ніколі яна не мінае і нашага школьніцтва, настаўнікаў, дырэктараў, войтаў і зусім простых людзей, кожны з якіх мае свае праблемы. „Абявязак перад родным" („Ніва", н-р 10) — гэта лёс жывых людзей з адміраючых вёсак Беласточчыны. Трасцянка падобная да многіх іншых вёсак, якія маюць дачыненне да беларушчыны. Аўтарка дае надзею, што не ўсё страчана: жыхары вёскі размаўляюць па-беларуску, больш чым палова вучняў вывучае родную мову і многія з іх ангажуюцца ў вывучэнне беларускіх песень і сцэнічных твораў, прычым вялікую ролю адыгрываюць настаўнікі. Сумна толькі, што ў школе не хочуць вывучаць рускую мову, толькі бацькі заяўляюць патрэбу вывучання англійскай або нямецкай моў. Задума не дурная, толькі вывучыць такую мову справа не лёгкая, нават калі і настаўнік знойдзецца. Толькі самыя здольныя адзінкі змогуць авалодаць заходняй замежнай мовай, а для рэшты вучняў гэта страчаны час. Думаю, што руская мова не горшая ад іншых, а прычынай грэбавання ёю з'яўляецца ахвота драпануць за мяжу, прытым акурат за тую, дзе руская мова непатрэбная. Аднак замежнае шчасце гэта ілюзія: свая краіна і родная мова гарантуюць спакой у жыцці, асабліва на душы. У сябе ніхто не захварэе настальгіяй. Ганна Кандрацюк павінна, па-мойму, крыху больш увагі ў сваіх рэпартажах звяртаць на тое, што ляжыць на сэрцы і душы нашых людзей: больш гісторыі, больш фальклору. Тады рэпартажы гэтыя можна будзе скласці ў асобную кнігу, чаго з глыбіні сэрца і жадаю.

Пры нагодзе хачу пахваліць і Янку Целушэцкага за падобныя матэрыялы, дзе больш пра гаспадарку — яны таксама цікавыя і карысныя.

Цікавы фельетон Васіля Сакоўскага п.з. „Быць ці не быць беларускаму цэнтру?! або Якія мы людзі?!" („Ніва", н-р 9). Так, любім і цешымся, калі суседу карова здохне, а яшчэ больш, калі памрэ муж або жонка. І часта ў чужой бядзе дапамагаем плакаць штучнымі слёзамі. Калісьці, у царскай Расеі, наймалі на пахаванне плакальшчыц, якія плакалі а то і вылі нават. За гэта плаціў ім капейкамі і запрашалі на абед, дзе заўсёды была гарэлка і закуска. А нам ніхто за гэта не плаціць — такія мы людзі.

А ці толькі мы?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЛЮБЯЦЬ І ШАНУЮЦЬ СВАЮ МОВУ

Нядаўна я, Ганна Кандрацюк, мела нагоду сустрэцца з дзецьмі Пачатковай школы ў Нарве. У гэтай школе ўсялякія вучні. Многа з іх не хоча вучыцца беларускай мове. Але трэба пахваліць тых, якія добраахвотна вывучаюць сваю літаратурную родную мову.

Дзіяна, Аня, Ася, дзве Эвы, два Лукашы і Кшысь — вучні 2 класа. Усе ведаюць „Зорку”, бо настаўніца Ніна Абрамюк выкарыстоўвае на ўроках „Ніву”. Сёння дзеткі чыталі тэксты ў „Букварах”. І хаця быў для іх гэта новы матэрыял, чытанне добра ім ішло. Вельмі падабалася мне, як другакласнікі адказвалі на пытанні настаўніцы. Зразумела, яны гаварылі па-беларуску. Большасць з іх на штодзень карыстаецца польскай мовай. У школе, сярод аднагодкаў „па-свойму” не гаворыцца.

Дзякуючы адданай працы настаўніцы Ніны Абрамюк у Нарве 2 тэатральныя калектывы. Маладыя артысты выступілі з такімі п'есамі як: „Казкі бабулі Параскі”, „Казка пра ваўка, шэрага разбойніка”, „Свавольныя зайчаняты”, „Чароўная лялька”. Таксама 11 вучняў выступала ў дэкламатарскім конкурсе. Былі гэта, між іншым: Дзіяна Якімюк, Аня Шарэйка, Беата Іванюк, Аня Леановіч, Эвеліна Кучэўская, Аня Садоўская (прашу выбачэння ў тых, каго не назвала, але не маю іх запісаных). Першае месца заняла Эвеліна Кучэўская. Дзяўчынка толькі два гады вывучае мову, але вельмі яе любіць і шануе. Вучні і настаўніца запрасілі таксама нашу рэдакцыю на сваё школьнае свята „Салодкі стол”. Гэта вельмі цікавае мерапрыемства. Дзеткі паказваюць сваю творчасць бацькам, настаўнікам і сваім аднагодкам, якія не хочуць вучыцца сваёй роднай мове.

Вучням і настаўніцы жадаем поспехаў і задавальнення. Іх праца вельмі для нас, усіх беларусаў, важная і патрэбная.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

*Другакласнікі з Нарвы.*

*Частка тэатральнай групы з Нарвы.*

<u>Жыхары нашых лясоў</u>

## ДЗІК

Паглядзіце ўважліва навокал, і вы заўважыце на снезе самыя мудрагелістыя сляды: і ланцужкі, і крыжыкі, і дробныя пацеркі. Гэта распісваюцца ў снежнай кнізе жыхары лесу. А хто вытаптаў вострымі капыткамі гэтую сцежачку? Куды яна вядзе? На яе шляху сустракаюцца незразумелыя ямы... Сцежка выводзіць на паляну, дзе снег перамешаны з зямлёй, там-сям відаць зялёныя сцяблінкі нейкіх раслін. Гэта работа дзікоў — яны перарылі ўсю паляну ў пошуках ежы: раслін, каранёў, насякомых і іх лічынак.

У сакавіку ў глухіх балоцістых месцах на падсцілцы з дробных хваёных галінак, леташняй травы і моху можна сустрэць вывадак дзіка. Парасяты нядаўна нарадзіліся. Маленькія і слабенькія, яны ляжаць нерухома, прытуліліся адзін да аднаго... Светла-карычневыя, з белымі палоскамі на спіне і з кірпатымі лычыкамі, яны не варухнуцца пад позіркам назіральніка, толькі маленькія вочкі выдаюць іх хваляванне і цікаўнасць.

Дзік — буйная жывёліна з масіўным, даволі нязграбным на першы погляд тулавам, на кароткіх моцных нагах. Даўжыня цела 2—2,5 метра, вышыня ў карку — 1,1 метра, маса — 150—300 кілаграмаў. Галава вялікая, выцягнутая, заканчваецца голым пляскатым лычом з вялікімі ноздрамі. Вушы доўгія і шырокія. Зрок дрэнны, таму нюх і слых адыгрываюць важную ролю ў жыцці дзіка. Блізкасць вадаёмаў або моцна ўвільготненых забалочаных участкаў мае для яго вялікае значэнне. Жыве статкам. Актыўны ноччу, а днём адпачывае. Усёедны. Рацыён дзіка ўключае да 120 відаў раслінных і жывёльных кармоў. Корміцца жалудамі, сцяблямі, карэнішчамі, пладамі дзікіх раслін, мышападобнымі грызунамі, лічынкамі насякомых, дажджавымі чарвямі і інш. Гон у лістападзе — снежні, а ў сакавіку — красавіку дзічыха нараджае 4—6, рэдка 12 паласатых дзіцянят.

Сустракаецца ва ўсіх абласцях Беларусі. Пагалоўе дзіка ў рэспубліцы дасягае 25—30 тысяч. Селіцца ў лясах, аддае перавагу дубровам. Зімуе ў змешаных хваёвых лясах.

**А. КУРСКОЎ**

<u>З вучнёўскай творчасці</u>

## СОНЕЙКА

Вечарам над рэчкай
Сонейка сядзела.
Сядзела, гуляла
Стужачкай зялёнай,
Дый само не ведала,
Што яно хацела.
Ужо месяц на неба
Збіраецца ўсходзіць
І зорачкі макам
Пасыпалі ночку,
А сонца сумуе
Пэўна, за табою
У зялёным вершы
Схаванае ў ветках
І ў воблаках светлых.

**АДА СЕМЯНЮК,**
**Беласток**

### АДГАДАНКА „ПАДАРОЖЖА”

**Падваенне ці падаўжэнне?** *Збожжа, галлё, снеданне* — падаўжэнне (фанетычная з'ява); *адданы, рассыпаць* — падваенне (марфалагічная з'ява).
**Пажаданыя памылкі.** Яны сапраўды пажаданыя, нават неабходныя — у вуснай мове, згодна з патрабаваннямі гаспадыні Арфаэпіі. А ў Арфаграфіі — свае патрабаванні. Таму мае рацыю настаўніца: яна дыктуе правільна.

*Працяг з папярэдняга нумара*

## ЯК ВАРОНА КАРКАЦЬ СТАЛА, А Ў ДЗЯТЛА ЧЫРВОНЫЯ ШТАНЫ З'ЯВІЛІСЯ

Недалёкая дарога, ды замнога дум перадаў дзяцел, пакуль даляцеў. І ўсе думы пра адно — як варону ад песень адвучыць ды чырвоныя штаны залучыць. Калі дужа-дужа нечага хочацца дамагчыся, дык абавязкова дакеміш, як гэта зрабіць.

А ў дзятла, як-ніяк, хоць маленькая галоўка, ды не дурная. Вось ён і падумаў... Сеў дзяцел побач з воронай на яловую галіну, пачакаў, пакуль яна песню скончыла — вочы расплюшчыла.

— Цудоўна спяваеш, — пахваліў дзяцел. — Варта табе рот разявіць, як увесь лес замірае ад асалоды. Асабліва птушкам прыемна слухаць твой голас. Усе яны зайздросцяць табе — гэтак цудоўна спяваеш: складна, жаласна, галасна.

— Я магу яшчэ гучней, — пахвалілася варона.

— Ой, наўрад, — паківаў галавой дзяцел. — Табе для гэтага пабочная думка замінае.

— Якая такая думка?! — здзівілася варона.

— Ты калі спяваеш, пра чарвяка думаеш!

— Пра якога яшчэ чарвяка? — пацікавілася варона.

— Пра чарвяка-дажджавічка... Такога тоўстага, тлустага, смачнага...

— Нічога я не думаю! Нічога я не думаю! — абурылася варона. — Я спяваю на сыты жывот.

— Не, думаеш! — стаяў на сваім дзяцел. — Хоць крышачку, але думаеш. Пра такога пухленькага, мякенькага чарвячка-дажджавічка — смачнага-смачнага. А калі ты пра гэта думаеш, вядома, спяваць на поўную сілу не можаш!..

— Кар-р-лік бясштанны! Кар-р-лік бясштанны! — узлавалася варона. — Я добр-ра спяваю! Я добр-ра спяваю! Ні пра якога чарвячка не думаю! Прэч адсюль. Прэч адсюль!

Варона замахала крыллем і пачала гнаць дзятла з галіны.

— Не, думаеш! — у апошні раз крыкнуў дзяцел і, сарваўшыся з яліны, паляцеў да Вялікага Дуба, дзе птушкі моўчкі сядзелі, тыя, што з усяго лесу прыляцелі, з поля, балота, нават з суседняга гароду. А на самай высокай галіне бакас сядзеў — з прызам — з чырвонымі штанамі цераз плячо.

Паляцеў дзяцел, а варона яшчэ доўга супакоіцца не магла — з нагі на нагу пераступала, дзятла лаяць не пераставала:

— Кар-р-лік бясштанны!

Потым паабяцала: „Зараз я ўсяму лесу дакажу, што яшчэ гучней спяваць магу! І ніякая пабочная думка мне не замінае”.

Уселася варона зручней на яліне — хвастом аб ствол абапёрлася, нагамі ў сук упёрлася, вочы заплюшчыла мацней, дзюбу разявіла шырэй, хацела звычайную песню завесці:

*Карапуз-бакас*
*Лётаў да мяне не раз!*

Ды толькі яна выгукнула: „ Ка-ар-р...”, як ёй дажджавы чарвяк на памяць прыйшоў. Не толькі на памяць, а проста-такі, як жывы, з'явіўся перад вачамі — тоўсты, тлусты, смачны... У вароны ажно слінкі пацяклі. Не можна далей спяваць...

Колькі варона ні пачынала сваю песню, далей „кар-а-рр!” ніяк не магла цягнуць — усё чарвяк замінаў, пра якога дзяцел казаў, — мякенькі, пухленькі, смачненькі, — слінкі наганяў, спяваць не даваў... Вось дык бяда!

З таго часу і лётае варона з дрэва на дрэва, хоча чарвячка-дажджавічка забыць ды старую песню да канца даспяваць. Але гэта ў яе ніяк не выходзіць.

**ІВАН БУРСАЎ**

**Пераклаў з рускай мовы**
**РЫГОР БАРАДУЛІН**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 21

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Падваенне ці падаўжэнне?

Вучні на ўроку атрымалі заданне напісаць пяць слоў з падоўжанымі зычнымі. Эдзік корпаўся ў сваім ранцы і прапусціў тлумачэнні настаўніцы. Калі ўсе пачалі пісаць, ён штурхнуў суседа локцем:

— Што трэба пісаць?

— Словы з падоўжанымі зычнымі, — пачаў тлумачыць той, — гэта...

— Ведаю, ведаю! — Эдзік паспеў ужо зазірнуць у яго сшытак. — Словы, дзе падвойваюцца зычныя.

— Не падвойваюцца, а падаўжаюцца.

— Гэта ўсё роўна, адно і тое, — і Эдзік пачаў хутка пісаць у сваім сшытку словы: *збожжа, адданы, галлё, рассыпаць, снеданне.*

Правільна ён выканаў заданне?

### Літары гуляюць у хованкі

Літары — „народ вясёлы", яны, як і дзеці, часам гуляюць у хованкі. Заўважылі? Вось, напрыклад, слова *пень*. Ёсць *пень* — няма *пня* ... і е няма! Куды ж яно падзелася? Схавалася. *Зямля — зямелька* — е з'явілася. *Локаць — локці* — а схавалася. Так і гуляюць: то з'яўляюцца, то хаваюцца, як у мульціку.

А яшчэ бывае — адна адну замяняюць: *пасылка — пасол*, а ў аднакарэнным слове *слаць* абедзве зніклі — схаваліся.

Пагуляйце і вы з літарамі ў хованкі: спачатку запішыце словы без літары, якая схавалася, потым адшукайце яе. Хто больш такіх слоў запіша? І яшчэ асобна — такіх, дзе літары замяняюць адна адну.

### Пажаданыя... памылкі?

У класе дыктоўка. Настаўніца дыктуе і пагладае на трэці ад дзвярэй стол: як там піша навічок? А ён піша: *Снех пат цяшкімі крокамі асідае...* Пасля званка яна папрасіла яго затрымацца і запісаць на дошцы першае слова дыктоўкі. Ён напісаў: *снег.*

— Чаму ж у дыктоўцы ты напісаў *снех, пат*?

— Вы ж самі так дыктавалі.

Хто ж мае рацыю ва ўсёй гэтай гісторыі? І чаму ў загалоўку сказана пра нейкія пажаданыя памылкі?

### Шэптам і ўголас

На ўроку вучыліся пісаць заяву. Косця выканаў работу, праверыў і хацеў здаць, але таварыш спыніў яго:

— Пачакай, — шэптам сказаў ён, — дату пастаў унізе.

— Чыйго тату? Пры чым тут... — раптам ён здагадаўся і зарагатаў.

Падышла настаўніца і, даведаўшыся, у чым справа, усміхнулася:

— А вы ж амаль прыдумалі новую гульню. Пакуль усе здадуць свае работы, падумайце над яе ўмовамі і як яе назваць. Да канца ўрока мы яшчэ паспеем пагуляць.

Сябры пераглянуліся і селі за стол. Хутка ўсё было гатова. Назва сама прасіцца: *Шэптам і ўголас*. Значыць — конкурс: хто больш запіша такіх слоў за пяць мінут. За кожную пару — ачко. Журы пазначае колькасць іх на здадзеных лістках.

*Варыянты:*

1. Пары слоў запісваюцца слупком (прыгожым каляровым шрыфтам) на лісце ватмана (brystolu). Ліст разразаецца ўздоўж і ўпоперак — атрымаліся карткі лато, на кожнай па аднаму слову. Перамешаныя карткі раздаюцца. Удзельнікі па чарзе чытаюць „звонкае" слова; той, у каго адпаведнае „глухое", таксама чытае, і абедзве карткі адкладаюцца на сярэдзіну стала.

2. Складанне жартоўных вершыкаў з парнымі словамі, напрыклад:

*З кустоў, дзе рос вялізны граб,*
*Пачуўся нечы гучны храп.*

*(працяг у наступным нумары)*

# ТАЙНА

**Т** выпытвала ў Тоні:

— Та-та-та — што так татакае?

— Татаў трактар.

— Тук-тук-тук — хто так тукае?

— Стракаты дзятлік.

— Тах-тах-тах — што так тахкае?

— Толікаў кулямёт.

— Ту-ту-ту — што так тутукае?

— Братава таксі.

— Тэп-тэп-тэп — хто так тэпае?

— Тоня туфлікамі па тратуары.

— Тоня, ты не стамілася адказваць на пытанні?

— Не стамілася.

— Тады растлумач, Тоня, тайну літары **Т**.

— Тайна ў тым, што без **Т** не было б тэлевізара, тэлефона, тэатра, торта. Трактар не татакаў бы, дзятлік не тукаў бы, Толікаў кулямёт не тахкаў бы, братава таксі не тутукала б, Тоніны туфлікі не тэпалі б па тратуары...

**Т** тармосіць Тоню:

— Тоня, табе тэрмінова трэба тэпаць у школу.

Тоня тлумачыць:

— Туды праз тыдзень патэпаю!

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

# ПЕСЕНЬКА ДЗЕДА-БАРАДЗЕДА

*Музыка ЛЕАНІДА ЗАХЛЕЎНАГА*
*Словы АРТУРА ВОЛЬСКАГА*

Я хаджу па белым свеце
І гляджу, як вы жывеце.
Калі трэба, памагу,
Бо я ўсё рабіць магу.

*Прыпеў:*
Хто я? Дзед-барадзед,
Абышоў белы свет,
А цяпер у ціхі час
Завітаў да вас.

З вамі побач буду ўсюды,
Трэба цуды — зробім цуды,
Трэба казку — раз, два, тры,
Вось і казка вам, сябры!
*Прыпеў.*

Вечарамі казкі баю,
Я ў запасе шмат іх маю.
А як прыйдзе казка ў сне,
Зноў кажыце дзякуй мне.
*Прыпеў.*

Я хаджу па белым свеце —
Ваш найлепшы сябар, дзеці,
І вядома нават мне,
Што вы бачыце ўва сне.
*Прыпеў.*



<u>З гісторыі Беларусі</u>

# У МЕСЦЕ ВІЦЕБСКІМ

Лета ад нараджэння Сына Божага 1413 у месяц красавік прыйшлі па Дзвіне велікакняжыя стругі і ладдзі з войскам і світаю і прысталі да берага процi Альгердавага замка. І была пагудка, што разам з княжымі людзьмі едзе муж вучоны Геранім Пражскі, пасланы ў нашу зямлю вялікім бязбожнікам Янам Гусам, якому, паводле ўказу папы рымскага, спявалі анафему ва ўсіх цэрквах Чэшскае зямлі.

... Да самага лета, пакуль вада ў Дзвіне не апала, казаў Геранім свае казанні, і лацінцам насуперак адпусціў паводле наскага звычаю бараду, і не галіў танзуры, і адмовіўся ад вопраткі клірыка, насіў жа такую, як у нас носяць.

Жыццё чалавечае мінулася з таго дня, як казаў ён нам казань сваю першую, я ж і цяпер яе чую, быццам зноў у храме Іаана Багаслова з бацькам маім стаю.

Нашаю моваю казаў ён, і хоць пераручваў на свой капыл словы, не смяяўся ніхто, бо словы тыя былі, як зярняты, і надышла пара, калі прараслі яны ў душах і закаласіліся.

З усіх турботаў роду чалавечага самы вялікі клопат — аб Радзіме. Дзеля прышласці яе аддаюць людзі маетнасць і жывот свой і жывуць шчасліва, а пасля смерці славяць нашчадкі іхнія імёны. Так казаў вучоны чэх, і голас яго бунтаваў сэрцы, а вочы ягоныя над гарбатым носам гарэлі, як у юрода Апанаса з Заручаўя, але не шалам свяціліся яны, а вялікім розумам. І казаў ён: самае вялікае злачынства перад Богам не тое, калі чалавека жыцця пазбаўляюць, а тое, калі цэлы народ з душою ягонай разлучыць хочуць. І казаў ён: сёння над маім народам смерць, нібыта коршун у небе, кружляе, а ёсць уладары — хочуць, каб і беларусінаў на свеце не было, каб дзеці вашыя мовы свае выракліся і на магілы продкаў сваіх плявалі. І казаў ён: з аднаго мы з вамі караня, дык будзьма разам за Божую праўду стаяць, каб на зямлі жыць!

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ**
**„Хроніка Лаўрына Баршчэўскага"**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Чаму твой брацік ікае?

— Таму, што тата калыхаў яго да сну ў нетыповы спосаб: падкідаў яго ўверх.

— І што, ад гэтага пачаў ён ікаць?

— Столь у нас нізкая...

* * *

— Мама, гэтая кніжачка — узнагарода ад настаўніка біялогіі.

— А за што ты яе атрымала, дачушка?

— За адказ на пытанне, колькі ног у страуса.

— Гэта ж проста — дзве.

— Я сказала, што тры.

— Што ты кажаш?

— Я і так была бліжэй праўды, чым іншыя вучні!

* * *

— Мама, у цябе будзе больш месца ў касметычнай сумачцы.

— Чаму?

— Я твае ўсе адэкалоны зліла ў адну бутэлечку...

* * *

— Тата, ці гэта праўда, што ўвосень усе пушныя звяры мяняюць свае футры?

— Ціха! Яшчэ мама пачуе!..

* * *

— Янка, што такое з тваім вокам?! Хто цябе ўдарыў?

— Валодзя.

— І што, ты яму аддаў?

— Я яму аддаў першы!

Падрыхтаваў
**А. ГАЎРЫЛЮК**

<u>БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ</u>

# У КАТА І МЫШКУ

Дзеці выбіраюць ката і мышку, бяруцца за рукі і становяцца ў круг. Мышку пускаюць у круг, кот застаецца па-за кругам. Калі ж кот уварвецца ў круг, дзеці выпускаюць мышку з круга, а ката стараюцца затрымаць у крузе. Калі ж кот ізноў вырвецца з круга, туды пускаюць мышку. Гуляюць да таго часу, пакуль кот зловіць мышку.

# ЛАГАГРЫФ

1. кавалак бервяна на паліва ў печы, 2. агародная расліна з аранжавым караняплодам. 3. таварыш, сябар, 4. ніжняя частка твару, 5. полка на сцяне з адной дошкі, 6. моцны чалавек, волат.




Вылучаныя літары складуць назву горада над ракой Дзвіною, у мінулым — цэнтра беларускай культуры і дзяржаўнасці.

# ІАНЕСКА ПА-БЕЛАРУСКУ

У днях 21-27 сакавіка ў Беластоку адбываўся Міжнародны фестываль тэатральнай творчасці, у якім свае мастацтва паказалі тэатральныя калектывы з Любляны, Лондана, Вільні, Менска, Браціславы, Заграба і Амстэрдама. Павеяла вясною на культурным панадворку нашага горада. Канфрантацыя тэатральнай творчасці паказала перш за ўсё розніцы ў стылі кантакту з гледачом. Найкарацей кажучы, усходнееўрапейскі тэатр змест спектакля імкнецца пераказаць словам, заходнееўрапейскі — жэстам. Гэтая другая форма больш універсальная і дазваляе ўспрымаць галоўныя ідэі чалавеку, які не ведае мовы акцёраў.

У Беластоку толькі тэатр ім. Янкі Купалы з Менска мог разлічваць на публіку, якая разумела тое, што гаварылі выканаўцы спектакля паводле п'есы Эжэна Іанеска „Крэслы". Не надта вядома толькі, чаму рэжысёр, Уладзімір Савіцкі, назваў сваю інтэрпрэтацыю „Віват імператар", бо ў спектаклі імператар — гэта абстрактная дэталь, адна з некалькіх.

Малая сцэна беластоцкага тэатра была перапоўнена. Шмат гледачоў вымушаных было сядзець на дастаўленых крэслах. Спектакль пастаўлены менскім тэатрам прыехала глядзець два аўтобусы гайнаўскіх ліцэістаў. У мяне склалася ўражанне, што маладым людзям п'еса не надта падабалася, але гэтаму не здзіўляюся. Праблемы, якія кранае Іанеска, сапраўды далёкія ад тых, якімі жыве 16-ці- ці 17-цігадовы чалавек. І, па-другое, традыцыйныя формы інсцэніроўкі з'яўляюцца надта неўспрымальнымі для гледача, які ў тэатры бывае выпадкова.

На сцэне Ён (Уладзімір Рагаўцоў) і Яна (Тамара Нікалаева) — пажылое сужонства, успамінаюць свае мінулае. Было яно такое, як у большасці людзей — раз лепшае, раз горшае, сумнае і вясёлае. Асабліва цёпла ўспамінаюць вёску Парыж, але ўсё гэта дзесьці прапала, адышло ў мінулае, асталіся толькі настальгія, успаміны і нараканні жанчыны, што муж яе мог бы калісь стаць кімсьці важным, калі б толькі хацеў.

У сваіх уяўленнях старэчы пераносяцца ў нейкую абстрактную рэчаіснасць, арганізуюць прыём з удзелам шматлікіх гасцей. Прыходзіць Дама, Палкоўнік і натоўп іншых асоб, займаюць крэслы, якімі запоўненая зала. Глядач аднак не бачыць гэтых людзей. Можа толькі здагадацца пра іх прысутнасць паводле размоваў і паводзін гаспадароў. Ён і Яна вярнуліся ў свет іх маладосці. Ён захапляецца прысутнасцю жанчыны, якую пэўна кахаў многа гадоў таму назад, Яна млее ад пяшчотаў нейкага доктара, які, магчыма, калісь гаспадыні не быў абыякавым. Прыём, на які прыйшло многа сяброў і агульнавядомых асоб удастоіў таксама імператар. Ад шчасця гаспадару аж ногі ў каленях гнуліся. Але калі ўжо ўсе крэслы былі занятыя, у гэтым натоўпе нашыя героі ўспомнілі пра сябе, пачалі шукаць адзін аднаго, быццам бы апынуліся ў акружаючай іх імгле. Тое, што дзеялася, гэта былі толькі мары пажылых людзей, перамешаныя з імпрэсіямі з іх мінулай маладосці. Вярталася рэчаіснасць іх штодзённага жыцця. Нябачны натоўп адыходзіў як сон, з нейкімі шэптамі і іранічным смехам. У сапраўднасці Яго і Яе не наведваюць ужо сябры, бо іх проста няма, нічога ўжо не здарыцца ў іх жыцці, чаго варта чакаць. Яны маюць толькі сябе, свае мары, жалі, успаміны і дзівацтвы.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

*ДАНУТА БІЧЭЛЬ*

* * *

Мяне ніхто ніколі не кахаў
і не любіў ніхто мяне. О, Божа!
Чаго ж я тут стаю, дзе раздарожжа,
дзе ўжо даўно няма ні ў кога спраў!..

Ва ўсіх тут — не жыццё, адна зіма,
слата і змрок, такая завядзёнка.
Была ў мяне адна сяброўка Бонка.
Памерла. І нікогачкі няма.

*3.12.93*

* * *

Мышка сядзіць пад падрубай, а цюцька пад плотам.
Я паміж намі. Усіх падфутбольваюць ботам.
Холадна ў Нёмане рыбкам. Так мне здаецца.
„Цюцька, хаваеш куды ты ад холаду сэрца?"

Горад наш добры ўначы, ён праймаецца намі.
Цёпла па вуліцах бегаць ды клацаць зубамі.
Плот ды ліхтарык з намі гуляюць у „бабкі".
Хай сабе мучацца ў панскай няволі сабакі.

Маем тут дужыя плечы спрадвечнага муру...
Надта рамантыкі мы.
А магчыма і здуру.

*28.02.94*

* * *

Ноч перайму на Арэшчыным ганку
Стомленым рэхам далёкай сваячкі.
Знекуль у сонную Гараднічанку.
Ноччу вяртаюцца дзікія качкі.

Ноч адмывалі крынічку ў калюжы,
дзікія, вольныя, сытыя воляй.
Пагагаталі і зніклі, як душы.
Холадна. Змерзнуць. Не вернуцца болей.

Ды прылятаюць, як зробіцца цёмна.
Дзікая рэчка — ні выйсця, ні броду.
Дзікія качкі гагочуць бяздомна.
Дзікія душы ніякага роду.

*19.11.93*

# „РАМБІТ'94" — ДУБІЧЫ-ЦАРКОЎНЫЯ

23 лютага 1994 г. у Гмінным доме культуры ў Дубічах-Царкоўных быў праведзены турнір школ „Рамбіт'94" за пераходны Кубак войта Дубіцкай гміны (аб папярэднім глядзі „Ніва" н-р 12/1993 г.). Арганізатарамі былі Гмінны асяродак культуры, Гмінная бібліятэка і Гміннае праўленне Школьнага спартыўнага гуртка. Удзельнікамі турніру былі вучні пачатковых школ з Дубічаў, Грабаўца і Старога Корніна. Турнір пачаўся выступленнем сакратара гміны спадарыні Галіны Шыманюк, якая пазнаёміла прысутных з Камісіяй, якую складалі: Іаланта Соха, Славамір Кулік, Барбара Садоўская, Уладзімір Петручук, Івона Рушчык. У праграме спаборніцтваў былі пытанні па геаграфіі, гісторыі, біялогіі, спорце і іншых галінах жыцця ды спартыўныя спаборніцтвы: бег у мяшках, бег з поўнымі квартамі вады, конкурс „Што гэта такое?" (адгадванне прадмета з завязанымі вачыма), конкурс „Хто дакладней кідае?" (кідкі мячамі ў кашы). Апрача пералічаных былі конкурсы: яда піражнага на час без удзелу рук, піццё напітку цераз саломку, качанне мяча галавой. На заканчэнне адбыліся спаборніцтвы дырэктараў школ па так званай „малой політэхнізацыі": убіванне цвікоў, прышыванне гузікаў, абіранне бульбы. На жаль, з дырэктараў школ у змаганнях прыняла ўдзел толькі Ніна Добаш-Карпюк — дырэктар Дубіцкай школы, а яе сапернікамі былі ўсяго прадстаўнікі гмінных школ: Вінцэнт Мартынюк са Старога Корніна і Ірына Асіпюк з Грабаўца.



*У ядзе піражнага перамог Анатоль Корч (злева) з Дубіч-Царкоўных.*

Школа ў Дубічах-Царкоўных перамагла ў наступных спаборніцтвах: піццё напітку, хто дакладней кідае, піражнае з сюрпрызам, убіванне цвікоў, а школа ў Старым Корніне — у бегах у мяшках, ведах з розных галін жыцця і спорту. Школа ў Грабаўцы стала пераможцам па геаграфіі, гісторыі і абіранні бульбы. Астатнія гульні былі разыграны ў нічыю. Як сапраўдны джэнтльмен вёў сябе настаўнік школы ў Старым Корніне Вінцэнт Мартынюк, які падчас убівання цвікоў даў шанц жанчынам, апынуўшыся гэтым самым на апошнім месцы. Можа гэта і вырашыла канчатковы рэзультат. Першае месца заняла Пачатковая школа ў Дубічах Царкоўных — 33,5 ачка, другое месца — школа ў Грабаўцы — 31 ачко, а трэцяе месца — школа ў Старым Корніне — 30,5 ачка. Пераможцы атрымалі з рук сакратара гміны кубак, дыплом і магнітафон. Грабавец атрымаў дыплом, валейбольны мяч і настольную гульню, Стары Корнін — дыплом і эспандэр. Праз год чарговы турнір.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

# ЦІКАВАСЦЬ ДА „БЕЛАВЕЖЦАЎ"

Зацікаўленне беларускай перыёдыкі творчасцю нашых „белавежцаў" працягваецца. Пасля рэкамендацыі масцітых літаратараў на старонках літаратурна-мастацкіх штомесячнікаў прыйшла чарга і на знаямленне з менш вядомымі пісьменнікамі, згуртаванымі ў Літаб'яднанні „Белавежа". І так, мінулагодні снежаньскі нумар „Родная слова" (12/1993) у рубрыцы „Літаратурны ветразь" надрукаваў некалькі вершаў і лірычных мініяцюр Янкі Целушэцкага пад агульным загалоўкам „Я хацеў бы быць ветрам...". Пры нагодзе рэдакцыя заявіла таксама, што *пра слынных „белавежцаў" „Роднае слова" мяркуе неўзабаве распавесці.* Як нам стала вядома будзе гэта нарыс Сяргея Чыгрына са Слоніма, які ўжо некалькі гадоў даследуе літаратурнае жыццё Беласточчыны і прапагандуе літаратурныя здабыткі „белавежцаў".

**(вл)**

# МОЙ РОДНЫ КУТ

На працягу сакавіка г.г. у гайнаўскай Педагагічнай бібліятэцы былі паказаны фатаграфічныя працы **Уладзіслава Завадскага**. Выстаўка, названая „Мой родны кут", прадстаўляе беларускую сучасную рэчаіснасць: дагараючую вёску, амшэлыя праваслаўныя крыжы, а побач — ціхае харaство прыроды (глядзі здымак). „Мой родны кут" Завадскага — гістарычнае сведчанне яшчэ існуючай беларускасці. У Гайнаўцы карысталася яна вялікім зацікаўленнем, асабліва сярод настаўнікаў. **(Г.К.)**



 

## САБОР СВЯТОГА АРХАНГЕЛА ГАЎРЫІЛА



На другі дзень пасля Благавешчання — 8 красавіка — Царква здаўна святкуе Сабор Святога Архангела Гаўрыіла (гэтае свята абазначае сход вернікаў дзеля супольнага ўслаўлення Архангела Гаўрыіла). Ён — вястун вялікай тайны нашага збавення — увасаблення Сына Божага, яшчэ прынёс Прасвятой Дзеве Марыі, ды адзін адзін з важнейшых ва ўсёй іерархіі Ангелаў (добрых духаў) ды і знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці Бога (Лука, 1: 19). Архангел Гаўрыіл — пасланец нябёсаў, які перадае Божыя тайны. Гэта ён перадаў прароку Захарыю навіну аб нараджэнні яго сына — Іаана Прадцечы і прароку Данілу — аб асвабаджэнні з вавілонскай няволі. Святая Традыцыя нагадвае, што быў ён прысутны падчас малітвы Хрыста ў Гефсіманскім садзе. Імя Гаўрыіл абазначае сілу Божую.

С.Н.

## ПАПРАЎКА

У артыкуле „Даравальны Запіс Канстанціна" („Ніва" н-р 10 ад 7.03.1994 г.) зроблена была мною памылка: замест *Еўсевій з Нікадыміі* павінна быць **Яўсевій з Нікамедыі**. Нікамедыя — гэта горад над Мармуровым морам (цяпер Турцыя), якое паўстала ў ІІІ стагоддзі да н.э. У рымскі перыяд быў ён сталіцай ўсходняй правінцыі і імператар Дыяклетыян зрабіў яго сваёй сядзібай. Калі паўстаў Канстацінопаль, горад страціў сваё значэнне. Нікамедыя ў IV стагоддзі (да 380 г.) была адной з крэпасцей арыянізму.

Яўсевій з Нікамедыі — епіскап гэтага горада — быў арыянам г.зн. староннікам Арыя, якога асудзілі на І Усяленскім Саборы ў Нікеі ў 325 г. Прафесар Аляксандр Краўчук у сваёй кнізе „Канстанцін Вялікі" піша, што быццам бы Яўсевій Кесарыйскі (у Палесціне) прадставіў астатнія дні Канстанціна Вялікага ў сваёй кнізе „Жыццё Канстанціна" (Vita Constantini). Ці сапраўды яе напісаў сам епіскап Кесарыі Яўсевій, ці яго наследнікі, невядома. З яго хронікі на грэчаскай мове асталіся толькі фрагменты, але быццам бы ацалела яна на армянскай мове. У гэтай хроніцы напісана, што калі імператар Канстанцін стаў кепска сябе адчуваць, то паехаў у Нікамедыю і папрасіў епіскапа гэтага горада, каб яго ахрысціў. І быццам бы з яго рук прыняў ён хрышчэнне. Але аказваецца, што пасля гэтага, 21 мая 337 г., выйшаў дакумент, які нязгодны з хронікай. Канстанцін Вялікі выдаў эдыкт, дзе напісана, што жрацы пануючай сям'і не павінны плаціць данін і абавязкаў. Тэкст гэтага эдыкта быў высечаны на бронзавых табліцах і выстаўлены на публічны агляд. Адсюль бачым, што імператар да канца падтрымваў гэтыя аспекты языческай рэлігіі, якія палітычна былі яму выгоднымі.

Імператар Канстанцін памёр 22 мая 337 г.

Д. ШАТЫЛОВІЧ

## ПРЫВІТАНЬНЕ

Дарагія Суродзічы!

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас з знамянальнаю датаю — 76-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Апошнімі часамі сілы, варожыя беларускаму нацыянальнаму адраджэньню на нашай Бацькаўшчыне, усё больш і больш узьнімаюць свае галовы, каб задушыць палітычную й эканамічную незалежнасьць Беларусі. Яны намагаюцца павярнуць назад кола сучаснае беларускае гісторыі, зрабіць замах на жыцьцё беларусаў, як нацыі і назаўсёды абяздоліць нашую Бацькаўшчыну, ператварыўшы яе ў глухія мясьціны смутку.

Таму мы верым, што Векапомны Акт 25-га Сакавіка 1918 году згуртуе беларусаў, як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі на новую барацьбу за свабоду Беларусі. Няхай ня гасьне жыватворчы агеньчык волі беларускага народу! Няхай разгараецца ён нязгаснай паходняй, асьвятляючы шлях да поўнае незалежнасьці нашае любае Беларусі!

Жыве вольная і дэмакратычная Беларусь!

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня**
**Міхась Сенька**
**Сакратар**

## АНДРЭЕВА СТАЯННЕ

У чацвер пятага тыдня посту, на ютрані, г.зн. у сераду вечарам, у цэрквах чытаецца поўнасцю Вялікі Канон Святога Андрэя Крытскага. Потым чытаецца таксама жыццё Прападобнай Марыі. І менавіта таму гэты дзень называецца Андрэевым Стаяннем і Стаяннем Марыі Егіпецкай. Пакаянны Канон, які на працягу першых чатырох дзён Вялікага Посту чытаецца па частках, у гэты дзень чытаецца адзін раз у год поўнасцю. Паўтараючы яго, Царква прагне натхніць сваіх вернікаў новымі сіламі на паспяховае заканчэнне перыяду Святой Чатырадзесятніцы. Царкоўны Устаў загадвае чытаць і спяваць Канон Святога Андрэя Крытскага памалу, з „сокрушенным" голасам і сэрцам, каб змякчыць найбольш зацвярдзелую ад грахоў душу і падштурхнуць яе да пакаяння, да якога ніколі не бывае позна. Схіліць да гэтага мае таксама чытанне жыцця Прападобнай Марыі Егіпецкай, паколькі прадстаўляе яно прыклад сапраўднага раскаяння і заадно Божай міласэрнасці, якая гатова прыняць найбольшага грэшніка.

Чытанне Вялікага Пакаяннага Канона і Жыцця Святой Марыі Егіпецкай было ўстаноўлена ў перыяд VI Усяленскага Сабору.

С.Н.

## РЫЦАР БЕЗЗАГАННАЙ

Найбольшы каталіцкі часопіс „Rycerz Niepokalanej", тыраж якога даходзіць да 270 тысяч экзэмпляраў, выходзіць цяпер на беларускай мове пад загалоўкам „Рыцар Беззаганнай". Першы нумар тыражом у 1000 штук адпраўлены ў Беларусь. Змест яго складаюць пераклады з польскага выдання. Усё гэта дзеля збаўлення беларусаў. Вось якіх ветлівых суседзяў маем! Усе думаюць нават пра наш лёс пасля смерці, каб мы хаця ў неба папалі.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

## БЕЛАРУСЬ ПЕРАД УСІМ!

— пад такім загалоўкам Альбін Стэповіч напісаў верш і склаў да яго музыку. Гэты лозунг стаў лейтматывам ягонага жыцця і дзейнасці. Яго жыццё падпарадкавана было беларускай ідэі хрысціянскай дэмакратыі, а пасля — нацыянал-сацыялістычнай. Ягоны брат Канстанты (Казімеж Сваяк) прысвяціў яму верш „Bratu nastaŭniku".

*Nia sumuj choć ljucca ślozy,*
*Budź i śmieły i ćwiarozy.*
*Wier, što Biełarus ustanie,*
*Zhinie chitrych panawańnie.*

Гэтае паэтычнае пасланне любімага брата прадказвала Альбіну дзейнасць на беларускай ніве.

100 гадоў таму назад, 18 сакавіка 1894 года, у вёсцы Барані Віленскай губерні, у каталіцкай сялянскай сям'і нарадзіўся Альбін Стэповіч.

Закончыўшы кансерваторыю Монтвіла ў Вільні, працаваў арганістам у касцёле ў Цеханоўцы (1913 г.) а пасля ў Казані (1913—1921 г.). Там таксама ў 1918 годзе паступіў у Казанскі універсітэт на юрыдычны факультэт, а ў 1919 — на факультэт грамадскіх навук. У 1921 годзе вярнуўся ў Вільню і штудзіраваў на гуманітарным факультэце Віленскага універсітэта. Адразу ўключыўся ў беларускі нацыянальны рух — быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза (БСС), з 1923 года працаваў настаўнікам музыкі ў Віленскай беларускай гімназіі. Пісаў у „Наш шлях" (орган БСС) і кампанаваў музыку. Напісаў песню „Дзе чутны мовы нашай гукі...", якая была гімнам Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (летась праспяваў мне яе Сяргей Новік-Пяюн), запісваў і апрацоўваў народныя песні. Пад канец 1926 года — пасля А. Станкевіча — пачаў выдаваць „Biełaruskuju Krynicu". Быў адным з дзеячоў Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (БІГіК), заснаванага ў 1926 годзе, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Пры Віленскім аддзеле БІГіК і пры касцёле св. Мікалая вёў хор. У гадах 1928—1930 быў падслам у польскі Сейм.

Належаў да тых, якія ўсё жыццё прысвяцілі свайму народу. На старонках „Przeglądu Wileńskiego" пісаў пра праявы беларускага жыцця ў Польшчы.

Не бачачы выхаду, далучыўся да беларускіх нацыянал-сацыялістаў — быў адным з аўтараў (Уладзімір Загорскі) праграмы і абавязкаў нацыянал-сацыялістаў.

Памёр 18 сакавіка 1934 года ад хваробы сэрца і пахаваны побач брата Канстанта на могільніку Роса ў Вільні.

Што засталося ў спадчыне ад гэтага заангажаванага беларуса? Аказваецца, шмат публіцыстыкі раскіданай на старонках заходнебеларускага друку. Пасляваенныя гады не спрыялі яе прапагандаванню — настолькі яна прасякнута самабытнай беларускай ідэяй, настолькі актуальная да сённяшніх дзён, што не адзін з прадстаўнікоў сённяшняй беларускай інтэлігенцыі падпісаўся б пад ягонымі вывадамі.

Ужо пасля смерці быў выдадзены спеўнік „За бацькаўшчыну". Цяпер захоўваецца ён у бібліятэках і архівах — да нядаўна ў іх „спэцфондах". Невядомая таксама яго брашура „Беларусы і дзяржаўная незалежнасць". У Вільні на Росе расце толькі адна сумная кветка на яго магілцы без крыжа. Трэба было доўга цікавіцца ягоным жыццём, каб трапіць на Росу і знайсці магілу. І ўсё ж далей няміnога робіцца, каб вярнуць яго спадчыну беларускаму грамадству. Спадар Эдмунд Стэповіч выслаў спадару Адаму Мальдзісу ўсё, што захавалася ў сямейных зборах у яго і Вітаўта Стэповіча (братанкі Альбіна, жывуць у Гданьску), а таксама тое, што ўдалося мне адшукаць у бібліятэках і архівах.



*Янка і Альбін (першы справа) Стэповічы з бацькамі Матэўшам і Альжбетай.*

Надалей застаецца невядомым лёс яго дзённіка, які пасля смерці трапіў у рукі Адама Станкевіча, разам з іншай яго спадчынай.

Думаю, што ў інтарэсе нас усіх і абавязкам перад нашай нацыяй ёсць пазнаваць такіх людзей, каб перамагчы стэрэатып беларуса-камуніста. Сярод беларускай нацыянальнай думкі былі і іншыя плыні, але выгадней было іх вымазаць з памяці і гісторыі. На забыццё прызначаны быў і Альбін Стэповіч. Гэта ён сам у 1933 годзе пісаў у „Przeglądzie Wileńskim" (nr 4): *Biedna, najbiedniejsza ty z nauk, historio! Do czego ciebie nie nadużywano? I kto by pomyślał, że ludzie wiekami, z pokolenia w pokolenie gromadzili materjały w archiwach i bibliotekach, by potem w XX wieku mogli na nie powoływać się ludzie przy udowadnianiu, że białe jest czarnem i odwrotnie.*

І ці ж не захавалі актуальнасць ягоныя словы аб беларускай інтэлігенцыі: *А naŝy intelihenty niedaloka adbiehli ad niahramatnaha sielanina. Śmat jaŝce siarod ich takich, jakija pryšoŭšy ŭ biełaruskim tawarystwie ŭ teatr, u restaran haworać prycišanym hołasam, bo nia choćuć, kab polskaja publika čuła ich biełaruskuju mowu. („Biełaruskaja Krynica", z dn. 3.06.1927 r.).*

ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ



 

# РОДНАЕ СЛОВА

28 студзеня г.г. у II Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы, які звычайна завуць беларускім, адбыўся чарговы цэнтральны дэкламатарскі конкурс „Роднае слова" для вучняў пачатковых школ Беласточчыны. На конкурс прыехала шмат вучняў са сваімі настаўнікамі і апекунамі. Прысутных прывітаў дырэктар ліцэя Яўген Сачко. Выказаў ён надзею, што многія ўдзельнікі конкурсу стануць у будучыні вучнямі гэтага ліцэя. Пажадаў таксама добрых уражанняў і поспехаў так у конкурсе, як і ў навуцы. Конкурсную камісію састаўлялі: Тамара Русачык — старшыня ды Надзея Артымовіч і Аляксандр Іванюк — члены. Вёў конкурс настаўнік беларускай мовы ў ліцэі Аляксей Мароз разам са сваімі вучаніцамі.

Адкрыла конкурс старшыня камісіі, намеснік старшыні ГП БГКТ, Тамара Русачык, якая сказала:

— Кожнаму народу даў Бог мову і кожны чалавек павінен яе шанаваць і любіць. Дзеля гэтага вы сёння прыехалі ў Гайнаўку, каб у святочным настроі, разам са сваімі сяброўкамі, сябрамі і настаўнікамі паказаць, што вы ўжо ўмееце. Гэтае мерапрыемства наладзіла Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і беластоцкая Кураторыя пры выдатнай дапамозе настаўнікаў беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, за што, ад імя ГП БГКТ і камісіі, шчыра дзякую.

На заканчэнне Т. Русачык пажадала маладым удзельнікам добрага самаадчування, поспехаў у конкурсе і годнага месца ў жыцці.

Затым пачаўся конкурс, які складаўся з двух частак: у першай выступілі малодшыя вучні (ад I-га да V-га класаў), у другой — старэйшыя (ад VI-га да VIII-га).

Сярод малодшых вучняў вялікае ўражанне выклікала выступленне Наталлі Сушч з бельскай „тройкі"; яе варта запамятаць — гэта сапраўдны талент. У першай частцы конкурсу выступіла больш за 30 удзельнікаў, былі яны добра падрыхтаваныя, некаторыя з іх выступілі ў суправаджэнні музычнага акампанементу, некаторыя карысталіся акцёрскімі рэквізітамі.

У перапынку паміж першай і другой часткамі конкурсу з музычным канцэртам выступіла сужонства Сасновічаў з Менска, якія вучаць музыкі дзяцей у Орлі і моладзь у Гайнаўцы. Спявалі яны беларускія песні пад акампанемент беларускіх народных музычных інструментаў. Падчас гэтага канцэрта дзесьці па-за Гайнаўкай наступіла аварыя ў электрасетцы і ўдзельнікі конкурсу не маглі ў далейшым карыстацца мікрафонамі і электроннымі інструментамі.

Пасля перапынку, падчас якога конкурсная камісія ацэньвала першую частку конкурсу, адбылася другая частка — для старэйшых вучняў. Выступіла тут 16 удзельнікаў. На маю думку некаторыя з іх выбралі занадта доўгія творы, што пад канец конкурсу, які працягваўся амаль 6 гадзін, асабліва адчувалася. Пасля заканчэння гэтай часткі, камісія ацаніла яе ўдзельнікаў і можна ўжо было аб'явіць вынікі конкурсу.

Спецыяльную ўзнагароду ў малодшай групе камісія прызнала Наталлі Сушч з Бельска-Падляшскага. Першае месца ў гэтай групе атрымалі Эвеліна Кучэўская з Нарвы і Гжэсь Маркевіч з бельскай „тройкі", тры другія месцы падзялілі Анна Грайко з Малінnік, Аляксандра Рынгайла з Орлі і Эва Шмукста з Кляшчэляў, трэція месцы атрымалі Эмілія Бусловіч з Аўгустова і Кася Саўчук з Чыжоў. Спецыяльную ўзнагароду Праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы атрымаў Грыша Байко з Гайнаўкі, а вылучэнні — Моніка Сахарэвіч з Орлі, Кася Аўласюк са школы н-р 1 у Гайнаўцы, Моніка Масайла са школы н-р 2 у Гайнаўцы, Малгося Янчук з Курашава, Ася Гаўрылюк са Старога Корніна, Аня Сідарук з Храбалоў, Аня Раманюк з Новага Корніна, Аня Тамчук з Дубяжына і Адам Матвяюк.

У старэйшай групе спецыяльную ўзнагароду камісія прысвоіла Эве Аксянцюк са Старога Корніна. Першае месца атрымала Бажэна Селевановіч з Кляшчэляў, другое — Іаланта Шумовіч з Кляшчэляў і Кацярына Сегень з бельскай „тройкі", трэцяе — Івона Калішук з Махнатага і Галіна Міхалевіч з Чыжоў.

Варта назваць і спонсараў конкурсу, якія фундавалі ўзнагароды. Былі гэта: Управа горада Гайнаўкі, Управа Гайнаўскага раёна, ГП БГКТ, старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і Праўленне Гайнаўскага аддзела БГКТ.

І яшчэ мая асабістая рэфлексія: удзельнікі конкурсу былі падрыхтаваны добра; вялікае ім дзякуй. Не меншая падзяка належыцца іх настаўнікам — іх высілак будзе працэнтаваць у будучыні. Не магу аднак стрымацца ад пэўнай заўвагі: на гэтым конкурсе не было журналістаў „Нівы", якія маглі б даць кампетэнтную ацэнку. Не было на конкурсе Ганны Кандрацюк, якая, як мне здаецца, вельмі цікавіцца навучаннем беларускай мовы. Была тут для яе выдатная нагода, — на другую цэлы год трэба будзе чакаць.

Дырэкцыі, настаўнікам і моладзі беларускага ліцэя ў Гайнаўцы вялікае дзякуй ад усіх удзельнікаў конкурсу і ад камісіі. Іх прыклад абнадзейвае.

**МІХАЛ ГОЛУБ**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

**8 лютага 1945 г.**

Раніцай, умыўшыся халоднай вадой з вядра і з'еўшы ўчарашнія запасы, мы выйшлі на панадворак, карыстаючыся фактам, што афіцэры ў сваіх пакоях яшчэ спалі. Мы знаходзіліся ў квартале аднапавярховых катэджаў у паўночнай ускраіне Зэебурга. Жыхары, відаць, паўцякалі і рускія сарганізавалі тут зборны пункт чужаземных рабочых.

Тых, якія трапілі сюды, падзялілі паводле нацыянальнасцей. Пэтэра адвялі да літоўцаў. У суседніх з намі дамах засталіся толькі беларусы і рускія. У некалькіх дамах жылі палонныя французы, апранутыя ў ваенную форму. Па квартале можна было хадзіць свабодна, але сам квартал агароджаны быў драцяной сеткай. Уцячы адсюль можна было лёгка, але каб перабрацца на поўдзень, трэба было б прайсці ўвесь горад, але тады маглі б затрымаць салдаты і не прапусціць далей.

Каля дзесятай раніцы беларусам загадалі сабрацца на невялікай плошчы. Выстраіўшы нас у чатыры шарэнгі, павялі ў паўднёвым напрамку, па галоўнай вуліцы горада, у малачарню. Быў гэта доўгі і двухпавярховы будынак, у якім ужо сядзелі ўкраінцы. У цэхах было поўна смятаны і масла, якое ўсе бралі сабе ў запас. На жаль, не было хлеба. Праз дзве гадзіны беларусаў вывелі з малачарні і павялі назад. Недзе з чатыры кіламетры за акраінай горада наша калона спынілася на нейкім хутары. У баўэраўскім доме жылі цяпер савецкія салдаты і афіцэры, а ў пуні трымалі палякаў і беларусаў. Нам сказалі, што начаваць будзем на сене. Там я сустрэў Антона Барысавіча Кердалевіча з вёскі Чаромха. Ён таксама працаваў у баўэра, чатырнаццаць кіламетраў ад мяне. Я сустракаўся з ім раз у месяц, калі нам дазвалялі ісці ў касцёл, што знаходзіўся каля Васэндэна.

У садзе каля дома гарэлі вогнішчы, на якіх затрыманыя палякі і беларусы гатавалі сабе страву. Мы спачатку выраўшылі здабыць прадукты. Валянцін з Косцем адправіліся на шашу, каб пакорпацца ў разбітых вазах, а я з Антонам разлажылі касцёр. Валянцін вярнуўся не толькі з харчамі, але і з вялікай патэльняй. Пад'еўшы, пайшлі мы ў пуню на сена. Неўзабаве з'явіўся савецкі салдат і заявіў, што калі хто з беларусаў хоча дабравольна пайсці на допыт, дык афіцэр у доме ўжо чакае. Я не адчуваў за сабою ніякай віны і рашыў пайсці ў першую чаргу.

У пакоі за сталом сядзеў малодшы лейтэнант. Запісаў ён маё імя, прозвішча і хатні адрас ды пачаў допыт:

— Як вы сюды папалі? — запытаў ён.

— Немцы вывезлі мяне, так як і іншых, на работы. Прыйшоў загад ад немцаў, каб явіцца ў зборны пункт ў Бельску-Падляшскім і адтуль мяне вывезлі.

— Чаму вы туды паехалі?

— Калі б я не паехаў, то за мною прыехалі б жандары і сілай саслалі б у які-небудзь лагер.

— А чаму вы не пайшлі ў партызанку?

— Па-першае: я тады не ўмеў яшчэ карыстацца зброяй і сумняваюся, ці мяне прынялі б у партызанскі атрад; падругое: я нават не ведаў, дзе шукаць партызанаў. Яны былі ў 30 кіламетрах ад маёй вёскі, недзе ў Белавежскай пушчы. Але галоўнае тое, што калі б я пайшоў у партызаны і жандармерыя не знайшла б мяне дома, тады яны расстралялі б маіх бацькоў і сястру. А майму бацьку было тады шэсцьдзесят гадоў і ён пайсці ў патрызаны не мог...

— Ну, добра! Калі вас вывезлі?

— 15 сакавіка 1943 года.

— І дзе вы ўвесь гэты час знаходзіліся?

— Я працаваў у нямецкага баўэра ў вёсцы Памэйрэн каля Гайльсберга.

Я паказаў лейтэнанту мой нямецкі „аўсвайс", дзе былі ўсе паметкі аб часе знаходжання ў баўэра і ягоныя каардынаты. Дакладна разгледзеўшы дакумент, афіцэр аддаў яго мне і стаў працягваць допыт:

— Ці ведаеце каго-небудзь з тых, якія тут знаходзяцца, што былі ўласаўцамі або нямецкімі паліцаямі?

— На жаль, апрача сваіх таварышаў, якіх таксама як і мяне вывезлі на работы, я нікога не ведаю. Вакол бачу толькі незнаёмых людзей.

— А колькі таварышаў вы знаеце?

— Толькі трох.

— І больш нікога?

— Нікога, — адказаў я.

— Шкада. Тады ўсё. Можаце ісці!

Я выйшаў. У чарзе да афіцэра чакалі яшчэ чатыры чалавекі. Адзін з іх пацікавіўся пра што дапытваў лейтэнант. Вярнуўшыся ў пуню, расказаў я сваім сябрам пра размову з афіцэрам і стаў іх намаўляць пайсці самім на допыт, паколькі і так гэта іх не абміне. А калі хутчэй закончаць допыты, тады можа скора адпусцяць нас дамоў. Але мае сябры не згадзіліся са мною і сталі рыхтавацца да начлегу на сене.

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЙНЫ

### Частка І

Дваццаць сёмага лютага прамінула васьмідзесятая гадавіна з дня нараджэння выдатнага беларускага эміграцыйнага паэта Уладзіміра Клішэвіча. Нарадзіўся ён у 1914 годзе на Случчыне ў вёсцы Краснадворцы.

Дзяцінства будучага паэта прайшло ў выключна цяжкіх умовах, выкліканых I сусветнай вайной, Кастрычніцкай рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной. На багатую Случчыну масава сцягвалі і рэгулярныя вайсковыя падраздзяленні, і партызанскія атрады, і звычайныя банды, разлічваючы на пажыву і грабеж. З гэтых прычын слуцкія вёскі ўсё болей руйнаваліся і бяднелі. Нічога затым дзіўнага, што якраз на Случчыне ў 1920 годзе выбухнула нацыянальнае паўстанне супраць тагачаснай савецкай улады. Пасля разгрому паўстання Случчыну агарнулі рэпрэсіі і тэрор, што паглыбіла надою мясцовага насельніцтва. Усё гэта датычыла і сям'і Клішэвічаў, у тым і некалькігадовага Уладзіміра.

У перыяд нэпа на Случчыне, як і на ўсёй Беларусі эканамічная сітуацыя значна палепшылася. Уладзіміру Клішэвічу ўдалося закончыць сямігодку, а крыху пазней і настаўніцкія курсы ў Слуцку. Не маючы поўных дваццаці гадоў, пачаў Уладзімір працаваць настаўнікам у вясковым асяроддзі. Магло б здавацца, што існуючы стан рэчаў адпавядаў амбіцыям і мэтам маладога настаўніка і ствараў для яго спрыяльныя перспектывы. Так аднак не сталася.

У хуткім часе наступіў 1930 год і звязаная з ім жорсткая калектывізацыя вёскі. Пры дапамозе тэрору былі знішчаны такія традыцыйныя каштоўнасці слуцкага рэгіёна, як: сялянскі індывідуалізм, працавітасць, прадпрымальнасць, імкненне да ўзбагачэння, цвярозасць, пазітывістычныя тэндэнцыі. На іх месца прыйшлі: нявольніцтва, праца не на сваім, разгул чыноўніцтва, культ убоства, праследаванне заможнасці, раскулачванне, ссылкі, п'янства.

Усё гэта адбылося на вачах маладога настаўніка, закаханага ў свой рэгіён, у свой грамадскі клас і ў свой народ.

На жаль, Уладзімір Клішэвіч не мог быць толькі абыякавым назіральнікам. Рэвалюцыйныя ўлады трактавалі ўсіх настаўнікаў як прапагандыстаў новай шаленай ідэі прымусовай калектывізацыі. Настаўнікі сілай прыцягваліся і да калектывізацыйнай прапаганды, і да абагульнення маёмасці ў калгасах, і да папшырэння дзікага культу асобы праваднра, і, урэшце, да так званай атэістычнай прапаганды.

Дзякуючы такой сітуацыі настаўніцкая прафесія, якая была запаветнай марай Клішэвіча, станавілася пракляццем. Жыццё ў вёсцы станавілася невыносным цяжарам і таму ў маладога настаўніка паявілася жаданне вырвацца са Случчыны і ўцячы як найдалей, каб не бачыць нядолі сваіх суайчыннікаў.

Шчаслівая магчымасць паявілася ў 1933 годзе, калі Клішэвічу ўдалося паступіць на першы курс Мінскага педагагічнага інстытута. Магло здавацца, што маладому настаўніку ўдалося адарвацца ад няшчасных пытанняў і знайсціся ў шчаслівым аазісе незалежнага студэнцкага жыцця.

І сапраўды, з вачэй Клішэвіча знікла нешчаслівая Случчына. Аднак не знікла з яго сэрца. Зрэшты, не давала аб ёй забыць і штодзённая прапаганда, якая на ўсе лады выхвальвала новую калгасную сістэму і пералічвала яе перавагі над сістэмай індывідуальнай сельскай гаспадаркі. Універсітэцкія ўлады раз за разам пасылалі студэнтаў у вёскі і для прапаганды новых ідэй, і да працы. Апрача гэтага студэнцкае бытаванне было выключна беднае, што не магло настройваць аптымістычна. І ўсё ж такі, нягледзячы на гэта ўсё, студэнцкае бытаванне было крыху лягчэйшым, чым жыццё вясковае.

Новым і грозным элементам гэтага жыцця сталіся ў хуткім часе палітычныя праследаванні. Вышэйшыя навуковыя ўстановы апанавала грозная манія антысавецкіх спіскаў і загавораў. Манія гэта была інспіравана Народным камісарыятам унутраных спраў. З часам паступілі арышты, суды, прыгаворы, ссылкі і расстрэлы.

На трэцім годзе навукі, у 1936 годзе, „справядлівая рука савецкага правасуддзя" схапіла Уладзіміра Клішэвіча і асудзіла яго як ворага народа.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

## ВАЦЭК І МАРЫЛЬКА

Не было больш закаханай пары, як Вацэк з Марылькай. У Калымцы ім усе зайздросцілі такога кахання, а дзяўчыне — такога прыгажуна за кавалера.

Пазнаёміліся выпадкова, у беластоцкім клубе міжнароднага друку „наляцелі" на сябе. „Будзем сваякамі!" — стукнуліся ілбамі. Вацэк усё глядзеў на дзяўчыну, якая за кавай чытала часопіс, а калі выйшла з клуба, пайшоў яе следам, аж да ейнай кватэры, якую наймала. Падбег да яе пры дзвярах, пацалаваў.

— Я — Вацэк! — прадставіўся збянтэжанай дзяўчыне.

— Марылька! — пачырванела тая.

Разам увайшлі ў маленькі пакойчык. Прасядзелі, гутарачы, да позняй ночы.

Вацэк паходзіў са Шлёнска. У Беластоку жыве яго бабуля. Прыехаў да яе ў госці і пайшоў працаваць шафёрам у пякарні. Марылька працавала краўчыхай, зарабляла добра, шмат адкладвала на ашчадную кніжку.

Пачаліся размовы аб супольнай будучыні. Пакуль пабяруцца шлюбам, рашылі „пахадзіць", каб лепш пазнаёміцца.

Вацэк стаў частым госцем у Марыльчыных бацькоў, а Марылька наведала ягоных бацькоў у Сасноўцы. Спадабалася Вацкавай радні гэтая спакойная, ветлівая дзяўчына з Беласточчыны.

У першы дзень Каляд пайшлі ў ложак, на просьбу даць доказ Марыльчынага кахання. Былі шчаслівыя. Сустракаліся штодзень, ішлі разам на шпацыр ці да Вацкавай бабулі.

Калі Вацэк даведаўся аб цяжарнасці каханай, сказаў, што вельмі цешыцца гэтым. Пасля двух тыдняў напісаў Марыльцы ліст, у якім рашуча адрокся ад яе і дзіцяці і паведаміў, што пакідае Беласток і вяртаецца дамоў.

Свет дзяўчыны кончыўся. Павесілася.

Пахавалі яе ў Калымцы. Прыйшла ўся вёска. Не было толькі яго, адзінага ў свеце, якому Марылька паверыла.

## КУПІЎ САБЕ "ЛАДУ"!..

Марэк сваю новую "ладу" купіў у Любліне. Двух элегантных мужчын цанілі яе не дорага, на ўсяго 100 мільёнаў.

Прадаўцы далі яму ўсе патрэбныя дакументы. Марэк паехаў дадому — цешыўся, што так танна набыў такую добрую машыну. Сябры сцвердзілі, што варта было за такія грошы купіць такі пекны самаход.

Кароткая была радасць Марка. Праз два тыдні паявіліся паліцыянты, за крадзенай аўтамашынай.

— Як гэта — крадзенай?! — усхваляваўся Марэк. — Я ж яе купіў на люблінскай "гелдзе", даў сто мільёнаў!..

— Магчыма, што так і было. Але мы павінны яе ў вас канфіскаваць. Яе ўкралі чужаземцу. Такіх выпадкаў бывае шмат.

Марэк анямеў. Машыну аддаў, але рашыў сам выясніць справу. Ведаў адрас прадаўца, які жыў у Кракаве.

Жонка і сябры раілі яму не ехаць: забіць жа могуць, пакалечыць яго тыя злыдні! Вядома, што яны за людзі?! Аднак, Марэк паставіў на сваім і адправіўся ў Кракаў.

Дзверы адчыніла сімпатычная жанчына.

— Я ў справе аўтамашыны, якую купіў. Аказваецца, яна была крадзеная...

— Я вам нічога не скажу, — адказала гаспадыня. — Вы машыну купілі не ў мяне. А майго мужа дома няма, тыдзень будзе, як паехаў за мяжу. Адрасу яго не ведаю, не ведаю нават, у якой ён цяпер краіне, і калі вернецца, ды ці ўвогуле... Ён мне праўды ніколі не кажа!

Вярнуўся Марэк ні з чым. Засталося яму толькі забыцца на тое прыкрае здарэнне.

**АЎРОРА**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КРЭМ З СУШАНЫХ СЛІЎ**

Прадукты:

*20 дэкаў сушаных сліў,*
*1 чайная лыжачка жэлаціну,*
*15 дэкаў збітай смятаны,*
*цукар па смаку.*

Слівы памыць, зварыць у невялікай колькасці вады, працерці праз сіта, перамяшаць з цукрам. Жэлацін развесці ў невялікай колькасці адвару са сліў, перамяшаць з перацёрам, астудзіць. Атрыманую масу вельмі асцярожна перамяшаць са збітай смятанай, пералажыць у місачкі, застудзіць.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВІРАВАНКА




1. вядомы на Беласточчыне калектыў з Воранава, 2. горад на Брэстчыне, 3. праца, 4. любіцель, 5. напр., графік, 6. марская жывёліна са шчупальцамі, 7. пярэдняя частка тулава, 8. вынік скрыжавання арганізмаў, 9. горад на поўначы Беларусі, 10. сусвет, 11. імя Яновіча, 12. духоўны.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 8 н-ра:**

**Гарызантальна:** Амос, хворы, траўма, кныр, бляск, Укаялі, лістапад, Шагал, бальніца, барограф, Аракс, барацьба, Мішыма, Інары, сцяг, малако, чыгун, люты.

**Вертыкальна:** звалка, крэсла, Манітоба, струп, загад, смала, кілаграм, кальрабі, шуба, гора, „Ніва", Марс, афіцыянт, ранжыр, Корбут, Кітай, Быхаў, расол.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шаноўны Астроне! За апошнія тры ночы наснілася мне ўсяго столькі, што і не спамятаць усяго. Але тры з іх я запамятаў добра. Баюся, што прадвяшчаюць яны мне нешта кепскае. Праўда, дзьмуў моцны вецер, а ў такія дні наогул сніцца абы-што. Дык вось.

Першы сон быў пра каштаны. Быццам бы еў я каштаны. Глытаў іх цэлыя, аглядаючыся, ці людзі не глядзяць. Каб не скампраметавацца зусім, я хапаю і ем нейкія галушкі, але больш усё ж еў каштанаў. Дзіўны сон, праўда?

У другім сне я ехаў на кані. За мной, таксама на кані, ехала мая дарослая дачка. Спыніліся каля нашага панадворка. Бачу, сядзяць на лаўцы мужыкі, сярод іх — мой бацька-нябожчык. Мой конь быў надта бордкі, і, хацяя моцна трымаўся за вузду, то, калі конь махнуў галавою, я ссунуўся на зямлю. Але ані я не ўдарыўся, ані не зваліўся, а стаў на ногі. Дачка, едучая ззаду, сказала, каб я ізноў узлез на каня, яна паможа. Гляджу, вузда ўжо іншая, конь стаць спакойны. І... прачнуўся.

Трэці сон. Быццам бы жэніцца мой калега-нябожчык, але я не бачу ні яго, ні жонкі. Вяселле адбываецца ў нейкай зале, у якой яшчэ ёсць шмат свабодных месц. Разглядаюся па зале, не ведаю, дзе сесці. Думаю, што калі б малады (мой калега) тут быў, дык паказаў бы мне месца. Побач са мною, пад сценкай, стаяў вядомы дзяржаўны дзеяч і таксама разглядаўся, дзе б тут сесці.

Што могуць абазначаць гэтыя мае сны?

**Антон**

Антоне! Твае сны даволі супярэчлівыя. Ну, вось першы сон. Нягледзячы на тое, што калі сняцца каштаны (ці ты іх бачыш, ці ясі), дык можна спадзявацца поспеху ў справах ці каханні, у тваім сне тыя каштаны быццам камяком у горле станавіліся, так ты іх хутка глытаў цэлымі. Няйначай справы тыя не будуць з лёгкіх, або проста захварэеш (бадай, страўнік).

У другім сне ты ехаў на кані (перамога), але пасля ссунуўся. А яшчэ ж і бацьку на лавачцы ты ўбачыў. Клопаты пры нейкіх важных для цябе справах непазбежныя. Дапаможа, бадай, табе дачка.

Што датычыць трэцяга сну, дык вяселле наогул прадвяшчае сварку. Але мо сварка будзе, але ты выйдзеш з яе сухім. Бачыш жа, ты нават не прысеў на гэтым вяселлі. А мо табе дапаможа той дзеяч, што падпіраў сценку разам з табой.

**АСТРОН**



## АДКАЗ НА ЛІСТ „РОЛЬНІКА З САКОЛЬСКАГА ПАВЕТА"

Ці не занадта крыўдуеце на праваслаўных? Куды ж вы нас гоніце? Тут наша зямля, нашы карані, тут прадзедаўскія камяні мохам абраслі і абмываліся слязамі нашых матак ад тугі па дзецях адарваных вайною.

Мы, вязні лагера ў горадзе Мемель (Літва), нас было больш ста чалавек рознай нацыянальнасці, жылі ў адной сям'і, дзяліліся кавалкам хлеба. Аднойчы адна жанчына спытала ў мяне, ці не маю сухароў. „Навошта табе?" — спытала я. „Мой Уладак, — адказала, — уцёк з акопаў, яны ідуць далей, ён два дні нічога не еў". Я дала ёй сухары, колькі мела. Ніхто нікога не пасмеў крыўдзіць, незалежна ад таго, хто гэта быў і якога веравызнання.

У 1944 годзе, у дзень святой Пасхі бамбілі горад. У паветры клубіўся суцэльны кашмар, нас гналі ў сховішчы. Мы ішлі і спявалі „Христос воскресе", радаваліся і не думалі пра тое, што шалёная куля магла б папасці ў нас. І не ўсім было суджана вярнуцца ў родны дом ці на роднае папялішча.

Няма бязгрэшных ні сярод праваслаўных, ні сярод каталікоў, нават сярод цароў і каралёў. Навошта гэтыя папрокі, грахі мінулага? Каму? Дзецям нашага часу ці падбухторшчыкам такім як вы? Калі вас асабіста нехта адзін пакрыўдзіў, чаму абвінавачваеце ўсіх? І ці не пара некаторым, такім як вы, „Рольнік з Сакольскага", спыніць звадкі і сяванне старога, мінулага зла паміж народамі?

**ВЕРА ГВАЙ,**
**Белавежа**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

*Пад такім загалоўкам Аляксей Гардзіцкі ў сёлетнім „Полымі" н-р 2 надрукаваў гумарэскі і анекдоты пра пісьменнікаў. У гэтых літаратурных эцюдах сустракаюцца прозвішчы вядомых нашым чытачам літаратараў, крыху месца адведзена і Беласточчыне, і нашым „белавежцам". У гэтым і ў чарговых нумарах „Нівы" будзем друкаваць найбольш цікавыя анекдоты.*

**ШАРАНГОВЫ ЯН ГУШЧА**

Паэт і перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову Ян Гушча жыў у Лодзі. Яго суседам па пляцоўцы быў генерал. Як гэта і водзіцца ў Польшчы, на дзвярах суседа вісела медная таблічка, але на ёй было выгравіравана не толькі прозвішча гаспадара, а яшчэ і вайсковае званне: генерал. Тады паэт заказаў сабе таблічку „Шаранговы Ян Гушча".

Неўзабаве генеральская таблічка знікла: самалюбства не дазволіла высокаму чыну жыць на адной пляцоўцы з „шаранговым", радавым.

**ЯК ЯНО ЛЕПШ**

Ян Гушча ў Мінску сустрэўся з беларускімі калегамі. Нехта жартам яму сказаў:

— Вярніце нам Беласточчыну.

— А навошта? Тады і на Беласточчыне перастануць гаварыць па-беларуску, а так хоць там мова захаваецца.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя")**






*Баба Еўка, дзед Тамаш па-сучаснаму.* **Мал. Л. Разладава**

*ГЕНАДЗЬ ЗОТАЎ*

**У ВАРШАВЕ**

У Варшаве „Інтурыст"
Выйшаў на бульвары
І ад сэрца нарасхрыст
Прадае тавары.

Дэпутатаў бы сюды
Хоць на пяць хвілінак —
Пра базар чаўпуць гады,
А не бачаць рынак.

Тут, на рынку, рад у рад
Рэчы і „пачонсткі",
І гучыць паўсюдна мат
Разам з „Матка боска!"

Кожны зух тут і мастак,
І відаць адразу,
Хто прыехаў абы-як,
Хто — з дзяржаўнай базы.

*(„Вожык")*

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Пан доктар, маю вострыя прыступы галаўнога болю.
— Вы п'еце многа гарэлкі...
— Гарэлкі я зусім не п'ю.
— Курыце многа папяросаў...
— Колькі жыву, не курыў.
— Позна лягаеце спаць...
— У 9 вечара я ўжо ў ложку.
— У такім выпадку ваш арэол замалы і сціскае галаву.

* * *

— Пан доктар, баляць штучныя зубы, якія вы мне ўставілі.
— А не гаварыў я, што будуць як сапраўдныя?

* * *

Паліцыянт затрымоўвае аўтамабіль:
— Ці ведаеце, што рэгістрацыйны нумар вашай машыны так запэцканы балотам, што нельга яго расчытаць?
— Не шкодзіць, ведаю яго на памяць!
— Тады выбачайце.

* * *

— Два польскія паліцыянты выбраліся на экскурсію ў Лондан. Там селі ў двухпавярховы гарадскі аўтобус. Адзін з іх астаўся ўнізе, другі пайшоў на гару. Цераз хвіліну той з гары вяртаецца ўніз.
— Што, не спадабалася табе там уверсе?
— Падабалася, ды язда там вельмі небяспечная. Падумай толькі — там няма шафёра!

* * *

Размаўляюць два дырэктары:
— Што будзеш рабіць падчас канікул?
— Ну што ж, нявестка выбіраецца ў Швейцарыю, дачка ў Іспанію, а жонка ў Парыж.
— А ты?
— Я, пэўна, у турму...

Сабраў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# СЕНТЭНЦЫІ

Грацыя пераможа сілу.

* * *

Па загаду волі і скала загаворыць.

* * *

Ва ўсмешцы згоды і д'ябал згарыць.

* * *

Жыццё, як буханка хлеба,
праходзіць з апошняй лустай дня.

* * *

Да ўцёкаў трэба мець адвагу.

**БАРЫС РУСКО**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры за мінулы год)*

## ПОМНІКАВЫЯ ЗДАНІ

### Як Бронзавы рыцар пераканаў Жалезнага

Падчас польскага паўстання за незалежнасць 1831 года інсургенты, разлічваючы на хуткую перамогу над карным вайсковым корпусам генерала Паскевіча-Эрыванскага, замовілі ў аднаго знакамітага французскага скульптара конны помнік Юзафу Панятоўскаму, які збіраліся ўсталяваць у Варшаве адразу ж пасля перамогі. Але інсургенты пралічыліся — расейскія захавўнікі разбілі іх войскі. Пасля разгрому паўстання Бронзавы рыцар — Юзэф Панятоўскі ў якасці вайсковага трафея быў захоплены камандуючым карнікаў, генералам князем Паскевічам і пастаўлены ў ягонай гомельскай сядзібе.

Калі да ўлады прыйшлі бальшавікі, у Гомель прыехаў палымяны польскі рэвалюцыянер, паплечнік Леніна Фелікс Дзяржынскі. Гэты недавучка-ксёндз, які атрымаў ганаровую мянушку „Жалезны рыцар рэвалюцыі", тым не менш, пачуваў сябе праўдзівым палякам, і, пэўна, з настальгічных памкненняў, вырашыў перадаць Бронзавага рыцара на гістарычную радзіму. Праўда, Дзяржынскі дзейнічаў не зусім бескарысліва; ён, як адзін з заснавальнікаў расейска-бальшавіцкай тайнай паліцыі — ЧК, сам прапанаваў Леніну падчас урачыстай перадачы помніка, на якой, між іншым, мусілі прысутнічаць Фош і Пілсудскі, зрабіць тэрарыстычны акт, узарваўшы першых людзей тагачаснае санацыйнае Польшчы. Гэтага, аднак, не адбылося — у апошні момант тэрарыст Луганскі, якому і даручалася здзейсніць выбух, быў адкліканы. Такім чынам, Бронзавы рыцар з Гомеля быў пастаўлены ў Варшаве з усімі ўрачыстасцямі і не стаў „траянскім канём"...

Гісторыкі доўга ламалі галовы, чаму Дзяржынскі раптоўна змяніў сваё рашэнне, пакуль некалькі гадоў таму ў адным рассакрэчаным архіве не была знойдзена дакладная Жалезнага рыцара да самога Леніна.

Польскі рэвалюцыянер паведамляў, што ўжо ў Гомелі, перад самай адпраўкай гістарычнае рэліквіі польскага народа ў Варшаву да яго ў гатэльны нумар апоўначы прыйшоў бронзавы Юзаф Панятоўскі і сказаў, што калі бальшавікі распачнуць тэрор, то міравую рэвалюцыю чакае хуткі крах. У сваёй дакладной Дзяржынскі пераконваў Леніна, што ў высакародных рэвалюцыйных мэтах лепш паступіцца часткай, чым пазбавіцца ўсяго, і таму, маўляў, ад тэрарыстычнага акту падчас перадачы помніка трэба адмовіцца. Што адказаў на гэта Ленін — невядома, але і Пілсудскі, і Фош засталіся жывымі; такім чынам Бронзавы рыцар здолеў пераканаць Жалезнага.

Такое фантастычнае, але, тым не менш, праўдзівае вытлумачэнне адной з самых загадкавых падзеяў у гісторыі санацыйнае Польшчы яскрава сведчыць аб тым, што перадача гістарычнай і культурнай спадчыны законным уладарам часам спрыяе і таму, што нават самыя зацятыя бальшавікі пачынаюць разумець усю шкоднасць і ганебнасць палітычнага тэрору...

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**




Дарагое Сэрцайка! Колькі ж мне было тады? Дваццаць сем. За мной быў ужо развод і даволі вялікі сын (восем гадоў). Мая сям'я (так званая „добрая") была ў шоку, калі я развялася з мужам. Ніколі ў нашай сям'і такое не здарылася. Не магла я, аднак, застацца з чалавекам, які ў маёй пасцелі сустракаўся з іншай, калі я выязджала з дзіцём да бацькоў.

У справах кахання я вымагала шчырасці і адданасці.

Дык вось, у дваццаць сем гадоў, разведзеная і разбітая, я выехала разам з сынам у іншы горад. Знайшла там працу ў лабараторыі аднаго навуковага інстытута. Адразу звярнулі на мяне ўвагу як на... жанчыну, а не працаўніка. Пару нежанатых ахвотна б суправаджалі мяне туды і сюды. Але я, ужо апарыўшыся адзін раз, вельмі асцярожна падыходзіла да іх залётаў. Хацелася быць адной, зрэшты, я лічыла, што... маладосць і ўсё, што было звязана з каханнем, ужо прайшло. Была я мілая толькі, бадай, у адносінах да свайго кіраўніка, старэйшага ўжо чалавека. Па-першае, ён быў маім шэфам, па-другое, з яго боку я не спадзявалася ніякіх залётаў. У яго ж была жонка і дарослыя дзеці.

А дарма! Праз нейкі час я заўважыла, што і яго адносіны сталі незвычайныя да мяне. Нашыя кавалеры падсмейваліся. Маўляў, закахаўся. І дзіўна, мне ад гэтага было прыемна. Шэф, калі ехаў у камандзіроўку, найчасцей браў з сабою менавіта мяне (амаль заўсёды браў некага з працаўнікоў). У часе адной з такіх паездак дайшло да нашага збліжэння. Ад таго часу мы расставаліся толькі нанач. Тады ён вяртаўся дахаты. Мусіў там быць, бо хацеў утрымаць сям'ю. Мне было вельмі балюча, калі ён пакідаў мяне адну ў ложку, але я не хацела, каб была знішчана наступная сям'я, а я была б вінаватая ў гэтым.

Сталася тое, чаго я так ненавідзела ў каханні: я ўліпла ў няшчырасць па самыя вушы. Усе супрацоўнікі здагадваліся пра нашыя адносіны, часамі трэба было глядзець у вочы і ягонай жонцы, быццам бы нічога не здарылася. І можа ўсё гэта было б мне яшчэ пад сілу, калі б трывала гэта год ці два. А мы гэтак жывем ужо пятнаццаць гадоў. Майму каханаму ўжо пад семдзесят, ды і я ўжо таксама ў гадах. Ён паважны дзядзя, і я маю ўжо дарослага сына. Да сёння мне найбольшую радасць даюць нашы супольныя летнія паездкі. Ён, як заўсёды, тлумачыць жонцы, што едзе ў камандзіроўку, па навуковы матэрыял, а я паведамляю свайму сыну, калі вярнуся. Едзем на прыроду, з палаткай, там жа варым яду, любуемся сабою.

Не думаю, што я прайграла сваё жыццё, хаця часамі той фальш не дае мне спакойна жыць. Вядома, родзічы маюць да мяне ізноў прэтэнзіі, быццам нікога такога не было ў нашай сям'і, хто б здабыўся на такую няшчырасць. Гэта ж подла і бескультурна!

Але, Сэрцайка, кажу табе шчыра: адчуваю сябе шчаслівай. Тыя пятнаццаць гадоў былі перапоўнены бязмежнымі пачуццямі, а крыўды, як мне здавалася, я нікому ніколі не зрабіла. У яго да жонкі ўжо і тады, калі я паявілася ў яго жыцці, не было ніякіх пачуццяў, апрача пачуцця абавязку.

Вельмі перажываю, што мой чалавек выбіраецца на пенсію. Цяжэй будзе сустракацца, а ўжо пра супольныя паездкі і гаварыць няма чаго. Што ты, Сэрцайка, мне параіш?!

**Яланта**

Яланта! Амаль кожны на тваім месцы лічыў бы, што не робіць нікому крыўды. А трэба было б запытаць пра гэта яго жонку. Можа, яна на гэты конт мае іншы пункт гледжання?! Не веру ў тое, што нічога не чула яна пра вашыя адносіны на працягу стольніх год. А можа не ўяўляла сабе, што гэта сур'ёзна?! Ты была маладая, ён — амаль удвая старэйшы, не кожнаму прыйдзе такое ў галаву.

Ну, але найважнейшае, што ты была шчаслівая. Рэшта не мела для цябе значэння, тым больш, што ты не патрабавала, каб і ён, як ты гэта калісь зрабіла, развёўся. Усё, што мае свой пачатак, мусіць мець і канец. Што ж, застаецца мець надзею, што прыйдзе новы кіраўнік, мо і ён будзе да цябе ласкавы. А можа і маладзейшы...

**СЭРЦАЙКА**